# Таіса Бондар

# АДНА

Кніга лірыкі



Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1989

ББК 84Бел7
Б 81

*Мастак*
*МІКОЛА СЕЛЯШЧУК*

Новая книга Таисы Бондарь — это монолог, исповедь, обращенная к близкому человеку — к Любимому. Любовь как очищение, любовь как утверждение высокого человеческого достоинства — лейтмотив книги, какой бы характер — социально-заостренный или щемяще-интимный — ни носили отдельные стихи. Лирическая страстность приобретает иную, более спокойную окраску, когда за внешней прозрачностью угадывается не только чувство, но и философский подтекст: духовный поиск, духовный рост определяют жизнь человека.

Б $\frac{4702120022-032}{М302(03)-89}$ 43—89

ISBN 5-340-00379-5

# і слова знікне ў бездані стагоддзяў...



* * *

*І слова знікне ў бездані стагоддзяў...*
*Бяскрыўдная — бязлітасная думка!*
*Бо, значыць, марны пошук паратунку*
*І для душы — душа сябе не знойдзе.*

*Няма ні слоў, ні сцежак несмяротных,*
*І колькі гэту праўду ні адпрэчвай:*
*Ноч прарастае ў ранак, дзень — у вечар,*
*Надзея — ў неба, мёртвае для мёртвых.*

*І так было, і ёсць, і вечна будзе.*
*Цуд ужо ў тым, што мы жывём, мы любім*
*Жыццё, сябе ў ім (часта брудным, грубым),*
*Не сумняваючыся ў гэтым цудзе.*

*Адно, што надараюцца мінуты,*
*Калі душа сама з сабой не ў згодзе,*
*Бо помніць, знае: ў глыбіні стагоддзяў*
*І слова знікне... Што ж тады — пакута?*

*За што — пакута? Вечнае — у вечным,*
*А мы жывём мінутаю, імгненнем,*
*І, ўсё змяніўшы, праўды не адменім:*
*Ноч прарастае ў ранак, дзень — у вечар...*

* * *

*Халодная плынь адвячорка,*
*Як човен, пагойдвае дом...*
*Калі не заблудзіцца зорка*
*У згадках, у ценях гадоў,*
*Калі яна ўсё-ткі асвеціць*
*Вось гэты халодны спакой,*
*Я ўсмак пасмяюся са смерці,*
*Заціснуўшы сэрца рукой.*

*Што смерць! — як з гарлачыка зоркі*
*Святла яе вечнасць глыне*
*І ўздыхам прасветлена-горкім*
*Траву нада мною кране.*
*Што смерць! — як жыццё пераможа*
*І холад і страх перад ім.*
*Засеем жа гоні! — хто збожжам,*
*Хто словам, хто прахам сваім.*

* * *

*Хтосьці свой ранак гукаў*
*Імем маім... А здранцвенне*
*Як асляпіла: рука*
*Ўсюды трапляла на сцены.*

*Сцены і сцены — наўкруг —*
*Чорным калодзежным зрубам.*
*Страшна за кожны свой рух:*
*Раптам прыспешваю згубу?*

*Голас — падобны на мой,*
*Так, бы сама я гукала*
*З цемры, што чорнай ракой*
*Ночы*
*па сценах сцякала.*

*Снілася? Ноч? І рака,*
*Што намывала ёй срэбра?*
*Ранак*
*Прыбіў да акна*
*Птушку, забітую небам.*

* * *

*Дарога прывядзе. Дарога ўпэўнена,*
*Што ёсць наперадзе прытулак, дах,*
*Што раніца, разбуджаная пеўнямі,*
*Пад спелы стукападкаў у садах*
*Мяне чакае ўжо, здалёк выглядвае,*
*Расплёскваючы з кубка сырадой.*
*А я... Я ўсё гадаю і не згадваю,*
*З якой бяды іду, з якой бядой.*

*Прытулак, дах... Але ж заўжды я мела іх.*
*Пакінула ў былым — каторы раз*
*Не за дарогай, за душой збалелаю*
*Іду і йду, забыўшыся на час.*
*Куды? Навошта? Што мне тая раніца?*
*Ці яблык, што апошнім упадзе?*
*Было ж, было! Чаканне паўтараецца.*
*На той жа круг дарога прывядзе.*

*Прытулак, дах... За звыклаю прынадаю*
*У далечы, ад сонца залатой,*
*Іду і ўсё гадаю і не згадваю,*
*З якой бяды іду, з якой бядой.*

* * *

*Нябесны, пякельны агонь*
*Мяне спапяляе, не знаю...*
*Ад слова да сэрца майго*
*Любая дарога — скразная.*

*А слова ж бывае чужым.*
*Зусім выпадковым. Нічыйным.*
*І хтосьці ўжо лічыць крыжы,*
*Якімі я значу ўспаміны.*

*І хтосьці ўжо мкнецца судзіць*
*Як грэх — непрыняцце падману,* 10
*Дарогі напятую ніць*
*Аслабіць прамоваю таннай.*

*Дарэмна. Хіба ўпершыню*
*Няведамым круг не замкнецца?*
*За гэта служэнне агню*
*Даўно непадсуднае сэрца.*

*Яно аплаціла ўжо ўсё —*
*І тое, чаго не прымала,*
*І тое, што змыла слязой.*
*За слова... Хіба гэта мала?*

* * *

*Паток свядомасці... Рака,*
*Што ўцягвае ў свой вір*
*Усё: ад зоркі да цвіка*
*Ў іржы, нібы ў крыві.*

*Усё: ад бога да манет,*
*Што здрадца падбярэ,*
*Да пылу, што яго манжэт*
*З манет старых сатрэ.*



*Усё паўторыцца. Не раз.*
*У свеце. І ў табе.*
*Каб вызначыць не круг, а Час,*
*Які для ўсіх праб'е.*

*Шляхі вядуць да бальшака,*
*Бальшак па шчасце мчыць...*
*Спрадвеку... Колькіх ашукаў*
*Той гон, не нам лічыць!*

*Мы ўсведамляем толькі гон,*
*Мы верым сіле ног.*
*Страчаецца круты адхон...*
*Хто мог, той перамог!*

*Ніводзін смерць не сустракаў*
*З вянком, пад гукі лір:*
*Паток свядомасці — рака,*
*Што ўцягвае ў свой вір.*

* * *

*Недагарак вечара ў акне,*
*На акне — раскрыты томік вершаў.*
*Хтосьці — хто? — па ім чытае мне*
*Пра вясну,*
*Пра крохкасць веры першай,*
*Пра дарогу ў ноч і пра касцёр,*
*Ля якога грэюцца надзеі...*
*Я не чую слоў. Не бачу зор.*
*Адчуваю: сэрца ледзянее.*
*І хачу — і не магу разбіць*
*Дрогкі страх,*
*Сцяну яго шкляную:*
*Раптам будзе некаму зашкліць*
*Гэты міг пасля, калі засну я?*
*Не, мне трэба ўсё цяпло сваё*
*Пераліць у голас, што чытае*
*Мне, працягу, злітаму з зямлёй...*

*Гэта — неба ў заўтра адлятае!*

* * *

*Зніклі зоркі. Згасла свята.*
*Дзень — у ночы на рагу...*
*Нечаканая адплата*
*За бяссонную тугу!*

*Быццам дух-злаславец блізка —*
*Прэч ад сцежкі мкне быльнёг,*
*Цень мой са шчанячым віскам*
*Прыціскаецца да ног.*

*Кожны новы крок — праз сілу,*
*Кожны след — глыбейшы след.*
*Я не бачу, чую крылы —*
*Махі крыл, што ўкрылі свет.*

*У паветры — густа — пер'е*
*З крыл тых цёмных, з цёмных хмар.*
*Як адплата за бязвер'е,*
*За бяссонне сумных мар —*
*Згаслі зоркі, знікла свята...*
*Нечаканая адплата!*

* * *

*Не ўсведамляла, якія глыбіні*
*Тоіць душа! Як над кручай стаю:*
*Крок, лішні рух — і прастора адрыне,*
*Скінуўшы ў бездань дарогу маю.*

*Бездань... Старое чыёсьці прароцтва,*
*Што ні надзеі, ні слёз не дапіць...*
*І, прыгадаўшы свае паўнамоцтвы,*
*Хочацца вочы прыкрыць — і ступіць.*





* * *

*Ці разбудзяць думкі новы дзень?*
*Ці засвеціць ён прасцяг над намі?*
*Ці падыме хоць адну з надзей*
*Тых, што апынуцца пад нагамі?*

*Ці наступіць іншы, лепшы час?*
*Ці бывае шлях, для ўсіх адзіны?*
*Я не веру ні ў адзін адказ.*
*І пытаюся. Прабач, Радзіма.*

*Ты мяне вучыла верыць. Не,*
*Ты вучыла верыць — і змагацца.*
*Я стамілася. І, як раней,*
*Не знаходжу адпачынку ў працы.*

*Думкі, думкі... З імі ўсё цяжэй.*
*З імі страшна. Быццам пэўна знаю,*
*Што ніхто бяду не ўсцеражэ,*
*Што згараць усе масты за намі.*

*Ці разбудзяць думкі новы дзень?*

* * *

*Беспрытульнасць дарогі.*
*Бессаромнасць нябёс,*
*Што пад бокам у бога*
*Зноў прыспяць нечы лёс.*

*Лёс сляпога паэта*
*(Трэба ж некаму пець!),*
*Але я не пра гэта...*
*Ёсць дарога. І смерць.*

*І халоднае ззянне*
*Ад зямлі да нябёс,*
*І вось гэта чаканне*
*Ранку, ранішніх слёз.*

*Беспрытульнасць дарогі.*
*Беспрытульнасць душы...*
*На паўсвету — нікога,*
*Хто б да слёз не дажыў!*

* * *

*Камянямі цяжкімі — трывогі.*
*Не твае, а ідзі абміні,*
*А ідзі адсячы ад дарогі*
*Свой прамежак — па ўсёй даўжыні!*

*Справа, злева натоўпамі крыкаў*
*Падганяе, прыспешвае дзень,*
*Бы вылічвае, хто з нас вялікі,*
*Хто, прабегшы жыццё, не ўпадзе.*

*Бег з бар'ерамі... Покуль у сіле,*
*Не шкадуй ні дыхання, ні ног,*
*Не цікаўся, па кім галасілі*
*Кіламетры мінулых трывог.*

*Ты даўно ад дарогі залежыш,*
*А яна пераблытала дні:*
*Зноў і зноў адступае бязмежжа,*
*Пакідаючы ўсцяж камяні...*

* * *

*Звіняць, звіваючыся, промні...*
*Цяжкі клубок, парваўшы ніць,*
*Праз міг-другі ўпадзе з далоні,*
*Зямлі кранецца і ўзляціць.*

*І ў ім усе жыццё пазнаюць,*
*Хто першы, хто апошні раз,*
*Каб новай раніцы акраец*
*Так падзяліць, як схоча час.*

*Як хоча... Не! Як патрабуе.*
*Законы не для ўсіх адны,*
*Ды лепш згаджацца, усляпую,*
*Перш чым з душой іх узгадніў.*

*Ці ж дапаможа разуменне,*
*Хто суд свой загадзя вяршыў?*
*На лыжку сонца болей, меней...*
*Як ёсць святло — яно ў душы!*



* * *

*Я — вольная шукаць свой дзень*
*У кожным бачным мне стагоддзі:*
*Душа не знойдзе — слова знойдзе,*
*І ў дзень той памяць прывядзе.*
*Старую памяць, што крадком*
*Змахне слязінку, і ўсміхнецца,*
*І прыме, возьме з рук букецік*
*Сарваных мною васількоў.*

* * *

*Свет... Пазнаю ў яго рысах*
*Поле, рачулку стракоз,*
*Лес, што гарэў, а не высах,*
*Шлях, што ўсё доўжыцца, лёс...*
*Колькі спакою ў дыханні,*
*Колькі імкнення ў хадзе!*
*Быццам ніколі каханне*
*Не саступала бядзе.*
*Быццам ніколі нікога*
*Не пераманьвала смерць*
*Куляй, пакутай, знямогай,*
*Небам, закутым у медзь.*
*Быццам... Хіба тыя «быццам»*
*Скажуць і больш і ясней,*
*Чым цішыня, што клубіцца,*
*Сцелючы сцежку вясне?*
*Чым вышыня, што згарае*
*І нараджаецца зноў*
*Ранкам, яго небакраем,*
*Срэбным ад спеву званоў?*
*Чым перуноў пе разовы*
*Над акрыялай травой?*
*Свет... Ён ранейшы і новы,*
*Вечна чужы мне — і мой!*
*Я пазнаю ў яго рысах*
*Поле, рачулку стракоз,*
*Лес, што гарэў, а не высах,*
*Шлях, што ўсё доўжыцца, лёс...*

* * *

*Галоднаму — акраец хлеба,*
*Пакінутаму небам — неба,*
*А мне — каменне слоў...*
*З дня ў дзень і з году ў год,—*
*Мусова! —*
*Агладжвай словы, лашчы словы,*
*Абмёўшы пыл часоў!*

*А я агладжваю, я лашчу,*
*Я пыл вякоў глытаю нашча*
*(На смак ён пыл як пыл!)*
*І не зважаю больш на сэрца:*
*Хай рвецца некуды, хай б'ецца —*
*Адчай яго сляпы.*

*Ледзь у плячо чыёсьці ўткнецца —*
*І цішыцца, і больш не мкнецца*
*На сэрцы варажыць.*
*А што рабіць, як словы згодны:*
*Галоднаму — хадзіць галодным,*
*Пакінутаму — жыць?*

*Адпрэчыць словы? Схамянуцца —*
*І ад трывогі адвярнуцца?*
*Не, я пачну наноў!*
*Галоднаму — акраец хлеба,*
*Пакінутаму небам — неба,*
*А мне — каменне слоў...*

* * *

*Замнога пераможцаў, перамог,*
*Замнога слоў...*
*А шум, ён шум і плодзіць.*
*І знае той, хто на вяршыню ўсходзіць:*
*Вяршыня — гэта бездань каля ног.*
*Неасцярожны рух, няпэўны крок —*
*І бездань! наўстырч! насустрач крыку! —*
*Рванецца шлях (перш страх!) —*
*І страшны выкуп —*
*Тваё жыццё! — не дол прымае, змрок.*
*Змрок забыцця... І будзь ты тройчы ты,*
*Ніхто вяршыню папракаць не стане:*
*Яна чакае, покуль сонца ўстане*
*І дзень прачнецца чыстым і святым.*
*І што ёй пыха перамог — іх звон,*
*Пражэктары, вянкі, апладысменты!*
*Чарговы дзень займаецца над светам,*
*Адзін з адвечна непаўторных дзён.*
*Ніводзін смертны і ніводзін бог*
*За рысу часу — лёсу! — не пяройдзе.*
*І так заўжды ў жыцці, як і ў прыродзе:*
*Вяршыня — гэта бездань каля ног.*





* * *

*Праўда... Паўпраўда трагічных падзей...*
*Зноўку мы дзелім адказнасць, а выйдзе:*
*Хтосьці схаваецца ў шчасці ці ў крыўдзе,*
*Хтосьці ўсю ношку на плечы ўскладзе.*

*Як між людзей. Як заўжды між людзей.*
*Хай бы заўжды! — не цяпер, не сягоння,*
*Не над адкрытым пагляду прадоннем,*
*Што так бяссонна і страшна гудзе.*

*Ён то нячутны, то чутны, той гул:*
*Выбухне, вырвецца подых магутны —*
*Чэзне ў дыханні нябачна-атрутным*
*Дзень, што стагоддзі аберне ў тугу.*

*Дзень, што не ведае долі сваёй,*
*А мітусіцца, геройствуе, хлусіць,*
*Толькі б усіх нас паверыць прымусіць,*
*Што ахвяруе сабой — не Зямлёй.*

*Мы і паверым (ад праўды за крок):*
*Дзень — гэта дзень, ён міне, ён мінае...*
*Можна не слухаць, не чуць, як склінае*
*Нас — і яго! — чыйсьці голас здалёк.*

## *МАЙ. 1986*

*Нясцерпны — бляск расплаўленага неба,*
*Нясцерпны — жар з прадоння за спіной.*
*І як крычаць, так і маўчаць ганебна:*
*Маўчанне — зноў абернецца віной.*
*Віной за абыякавасць закону,*
*За ўладу бездухоўнасці, за час,*
*Што сёння так балюча, так іконна*
*Ўзіраецца ў дзяцей сваіх, у нас.*
*Віной... Мы вінаваты. Ўсенародна.*
*Святло душы мянялі на цяпло,*
*На сытасць, на спакой, на што заўгодна! —*
*Пакуль не запякло, не апякло.*
*Было ж больш зручна растварыцца ў масе,*
*Было прасцей абвінаваціць час,*
*Так, быццам жыў не ў ім, не ў гэтым часе,*
*Не знаў ягонай праўды напаказ.*
*Было прасцей... І зараз так няпроста*
*Сярод разгублена-бадзёрых слоў*
*Паверыць у бязвоблачную пространь*
*Наступных, намі страчаных гадоў.*
*Атручан дол... Гуляе вецер смерці...*
*Ніхто не смее апраўдацца тым,*
*Што ў ветраным на схіле веку свеце*
*Быў з векам новым, з векам маладым.*
*Каму той век? Вучонаму злачынцу?*
*Чыноўнаму стваральніку хлусні?*
*Каму той шлях? Як маю пакланіцца?*
*Калі ён абпаліў, паспальваў сны?*
*Нясцерпны — бляск расплаўленага неба,*
*Нясцерпны — жар прадоння за спіной...*
*Крычаць — ганебна і маўчаць — ганебна*
*Перад такой бядой, такой віной.*

* * *

*Кветкі... Слава... Паднябессе...*
*Не да краснае цаны!*
*Тут бы просценькаю песняй*
*Завяршыць свой круг зямны.*

*Тут бы — песняй! — развітацца*
*З полем, з жаўранкам, з жыццём,*
*Што, адорваючы працай,*
*Знала: ў працы мы расцём.*

*А што галадна і золка,*
*Дык на тое і імпэт,*
*Каб раздзьмуць цяпельца ў зорку,*
*Сэрца — ў боль за цэлы свет.*

*Цэлы свет — яно замнога,*
*Як не ўправішся з сабой:*
*Круг — не проста круг, дарога,*
*Боль не толькі боль — любоў.*

*А цана... Дапіць самоту*
*Долі простае, зямной —*
*І няхай сам д'ябал потым*
*Разбіраецца з цаной!*

* * *

*Ва ўсяго ёсць два бакі,*
*Гэта кожнаму вядома.*
*Ноч і ранак... Нацянькі*
*Паміж імі — сцежка з дому.*

*З дому — у бязмежны свет*
*(Колькі меж для нас, любога!),*
*Чорны след і белы след*
*Побач, выбар — ад парога.*

*Выбераш жа той, што сам,*
*Першы, кінецца пад ногі,*
*І — адрэзана каса,*
*І — намераны трывогі.*

*Час памножыў суму вёрст*
*На тугу аб немагчымым*
*І нагадвае пра ўзрост,*
*Пра спрадвечны доўг жанчыны.*

*Заціскаю ў страху рот:*
*Гэта ж я — сама! — прарочу...*
*Сцежка — зноў ад тых варот,*
*За якімі лёс рагоча.*

* * *

*Гордая... А ўслед кідаюць: жорсткая!*
*І чакаюць: крыўду падбяру,*
*Падаўлюся ёй, нібыта косткаю,*
*Выплакаўшы боль свайму пяру.*

*Не, браткі, на тое й гордасць дадзена,*
*Каб не ўзяць нічога з тых шчадрот,*
*За якія куплены й прададзены*
*Не адзін такі вось дзень і год.*

*Не адно пяро... Навошта ў паніцы*
*Тузаць,ператрэсваючы, шлях?*
*Страх — не метка шляху, метка памяці*
*На падстаўленых пакорна лбах.*

*Толькі бедныя баяцца беднасці,*
*Знаючы, што прыйдзе чорны дзень.*
*Змалку пазбягаю адпаведнасці*
*Мерак звыклых і сваіх надзей.*

*Чорны дзень... А як душа — галодная?*
*Усміхаюся. Ці ўсім відаць?*
*Я такімі скарбамі валодаю —*
*І жыцця не хопіць, каб раздаць.*

* * *

*Папрок, відаць, стары,*
*А чый папрок — ні знаку:*
*Пакуль даюць — бяры,*
*Пакуль не гоняць — дзякуй...*

*А не даюць — прасіць?*
*А гоняць — уціраццa?*
*Не, лепш папрок насіць:*
*Пад банцік — і на лацкан!*

*Каб кожны, хто чакаў*
*Пакоры і падзякі,*
*Збаяўся ярлыка*
*Адкрытае адзнакі.*

*Каб кожны, хто хадзіў*
*У пераможцах, бачыў:*
*Ёсць той, хто не плаціў*
*Ні ўдачы, ні няўдачы.*

*Няма такіх удач,*
*Каб імі шчасце мераць,*
*Няма такіх няўдач,*
*Якія лёс павернуць.*

*Служыць, мясіць цалік,*
*Расшаркваццa за ласку?*
*Не, лепш насіць ярлык —*
*Як выклік — па-бунтарску!*

* * *

*Ліст іграе... Ноч іграе Ліста.*
*Чую вецер. Чую плач лісця.*
*І такая ў гэтым плачы чыстым*
*Прага сонца, што іскрыць прасцяг.*

*Іскры — пырскі цёплага бязмежжа —*
*Гаснуць, каб успыхнуць...*
*Плач як звон...*

*Сон — яго разбураныя вежы*
*Вецер п'юць разломамі акон.*



*Льюцца, рвуцца срэбныя струмені —*
*Кожны з іх, ледзь вецер уздыхне,*
*Будзіць гукі і іх рух праменны.*
*Ліст іграе! Вечнасці. І мне.*

*І здаецца: цішыцца трывога*
*Дзён, стагоддзяў, што чакаюць нас,*
*Зноў любоў прыроўнена да бога,*
*Зноў жыццю і ёй слугуе час.*

*Ліст іграе...*

* * *

*Паветраную абалонку сну*
*І сонечны прамень не разбівае.*
*А я іду, а я вяду вясну —*
*Сваю дзяўчынку! — цішынёй без краю:*
*Рука дрыготка сцісквае руку,*
*Да крокаў прыслухоўваюцца крокі...*
*Вышэе дзень. У небе, на шматку*
*Сінечы — мякка свецяцца аблокі.*

*І я шапчу: — Глядзі, якая даль!*
*Не выдзьмуць ветру ўсё цяпло ніколі.*
*За даллю, хутка ўжо, твой першы баль*
*Закружыць нас...— шапчу:*
*— Няхай няволя!*
*Абы вярнуць мінулае, абы...*

*Рука губляе кволую апору,*
*І, як у сне, што пра мяне забыў,*
*Прасёлак цягнецца панyла ўгору.*
*І ўжо старая — ўсохла, як смарчок! —*
*Ступае побач, прымушае ўгнуцца,*
*Падставіць анямелае плячо...*
*Я чую крык. І не магу прачнуцца.*

* * *

*Лёс. Дарога. Жураўлі —*
*Над дарогай, быццам метка...*
*Лапік выстылай зямлі,*
*На якім саджаю кветкі.*

*Кветкі самых розных дзён,*
*Сумных, радасных, турботных:*
*Кожны дзень цяпла жадзён*
*І змушае да работы.*

*Заўтра? Праз гады? Калі?*
*Зацвіце, усім надзіва,*
*Лапік выстылай зямлі,*
*Што заву сваёй радзімай.*



*Самаўпэўнена заву.*
*Самаўпраўна нават. Згодна.*
*Ды адзіна, чым жыву,—*
*Гэтай вераю заўсёднай,*

*Што залежыць ад мяне*
*І цяпло ўсё, і цвіценне,*
*Што вясна не праміне*
*Абярнуцца летуценнем.*

*Лёс. Дарога. Жураўлі...*



# не шлях, а лёс вядзе...

* * *

*Не шлях, а лёс вядзе...*
*Трывогі не хаваю.*
*Ну, што я — без людзей,*
*Іх роднасцю жывая?*

*Душа перацячэ*
*Ў прасцяг — і ў ковах жалю*
*Цяжар гадоў з плячэй*
*Не скіну ў пыл зляжалы.*

*А ён зняволіць, жаль,*
*Усё мне прыгадае:*
*І сонечную даль,*
*І раніцу ў той далі,*

*І смех званцоў, і цуд*
*Хлапечага прызнання.*
*І сон. І дом. І суд.*
*Усё! Усё дазвання.*



*І не пачуе слёз*
*За ліўнем дзён вясновых.*
*Не шлях вядзе, а лёс —*
*Пакутным шляхам слова.*

* * *

*Душа не папросіць спачыну,*
*Знямогшы, уткнецца вачыма,*
*Маімі вачыма,— ў сцяну.*
*Сцяна не абернецца небам,*
*А неба — галінкаю вербнай*
*На хаце, ў якой я спачну.*

*І ўсё-ткі надарыцца свята:*
*Між зорак заблудзіцца хата,*
*Шукаючы весніцы дня,*
*І за агароджай прамення*
*(На кожнай жардзіне — па пеўню!)*
*Травой прарасце цішчыня.*

*О, тое апошняе свята:*
*Ні крыўджаных, ні вінаватых,*
*І дзесьці высока душа...*
*Душа, што закрые мне вочы*
*І побач застацца не схоча,*
*Працягам абраўшы абшар!*

* * *

*Здзічэлы яблыневы сад,*
*Зарослы пылам і спякотай...*
*Усё часцей — ад шляху ўпотай —*
*Адсоўваю я далягляд*
*І ўслухваюся ў цішыню*
*Яго няўпэўненага росту:*
*Як колісь, агароджа ўзросту —*
*Не перашкода варанню.*

*Адно: цяпер яны ляцяць*
*Не чорнай зграяй, чорнай хмарай,*
*З усіх, як ёсць вакол, абшараў*
*Сюды, у сад майго жыцця.*
*Майго маленства! — назаўжды*
*Пакінутага сярод лета*
*Перш мной, а потым цэлым светам,*
*На ўсе пражытыя гады.*

*З іх вышыні й гляджу назад,*
*Праз хваляванне і пяшчоту:*
*Дзяўчынка —*
*Ў дзень, у лёс журботны*
*Бяжыць праз яблыневы сад.*



* * *

*На ўсемагутны крыж пакут*
*Не памяць азірнецца,*
*А думка, што магчымы цуд,*
*Хай не ў жыцці — па смерці.*

*І доўжы шлях ці скарачай,*
*Табе тваё прыдасца:*
*Не ношка ціске, а адчай,*
*Не сэрца хлусіць — шчасце.*

*У сэрца ўсе правы на цуд,*
*На просты цуд даверу,*
*Яго пакута — не ў асуд,*
*Пакута — проста мера.*

*Чакання мера, ці граху,*
*Ці знойдзенае веры...*
*Стагоддзі, дзён іх церуху*
*Не вымецеш за дзверы.*

*І — вось той ранак, і той крыж,*
*І тая кроў жывая! —*
*А ты, зняможаны, маўчыш*
*І вочы закрываеш...*

* * *

*Схліснуліся вятры — і ў глыбіні,*
*Дзе ўгадвалася сонца, ўспухла неба,*
*І жар яго на міг расплавіў срэбра*
*Аблокаў, патанаючы ў агні.*

*Агонь — а гэта рос агонь! — кіпеў*
*Так ярасна, так злосна-ашалела,*
*Што ўсплёскі пены раскалёна-белай*
*Абпальвалі сівыя кроны дрэў.*

*Маўчалі дрэвы, і ў маўчанні іх*
*Таіўся жах ці прадчуванне жаху:*
*На апусцелым скрозь да неба шляху*
*Клубіўся час укруг слядоў сваіх.*

*Клубіўся час, і ў вогненных клубках,*
*Здавалася, згаралі не імгненні —*
*Вякі, і іх загадкавыя цені —*
*Пахістваў на мурах сваіх абсяг.*

*Іх цені, перш чым воблік свой явіць,*
*Знікалі, растваралісяў прадонні,*
*З якога раптам вырваліся промні,*
*Халодныя, як джалы бліскавіц.*

*Я чула, як зрастаюся з зямлёй...*
*Душа мая, аглухлая ад болю,*
*Рванулася, застыла над сабою —*
*Над тым прадоннем, што палала ў ёй.*

* * *

*Дазвол на праўду? На адкрытасць?
Ды стане мужнасці пяру
З пагардаю адпрэчыць літасць
Да тых, хто быў «не ко двору».
Мой двор не там, дзе спрэс па рангу,
Па месцы ў спісе пазнаюць
І слоўную цяжкую брагу
Да кожнай стравы падаюць.
Не там, не ў тым ілжывым свеце,
Што сам сабе хвалу збіраў...
Птушыны грай будзіў дасвеццем
Бязмежны гон майго двара.
Птушыны грай, і спеў даёнак,
І смех жанок, і крык дзятвы,
І звон, які губляў рамонак,
Прыгнуты ветрам да травы!
Будзённасць з'яў, і справ, і зносін
Адвеку вызначана тым,
Што пацвярджала ў кожным лёсе
Уладнасць праўды, праваты.
І дабраты! Не той, публічнай,
Адкрытай толькі напаказ,
А непрыкметнае, крынічнай,
Што ўсякі раз ратуе нас.
Што не пытаецца прычыны,
А мкнецца веру ўваскрасіць...
Мой двор — зямля маёй Айчыны,
І як, скажыце, ёй схлусіць?*

* * *

*Што воля для таго,*
*Хто вечна не гарбеў*
*У ковах ланцугоў,*
*Скаваных для сябе?*

*Хто не шукаў нягод?*
*Ад сэрца не ўцякаў?*
*Не выдзіраў штогод*
*Па сцежцы з бальшака?*



*Не саграваў агонь,*
*У неба не ўмярзаў?*
*Што воля для таго,*
*Хто смак яе не знаў?*

*У роўных берагах*
*Заўсёды менш вады...*
*Нахлынула туга —*
*Адхлынулі гады.*

*Ні красак, ні снягоў:*
*Адно сляды твае...*
*Што воля для таго,*
*Хто паспытаў яе?*

*У кроку ад бяды*
*Не здраджваюць багам...*
*Адхлынулі гады —*
*Нахлынула туга.*

* * *

*Горкі цукар падману дамешваю ў каву,*
*Пагаджаюся ўсмешліва: трэба глынуць*
*І вярнуцца ў няўтульнасць самоты, да справы,*
*Не згадаўшы, што выпіла — п'ю! — каламуць.*

*Не згадаўшы, што п'ю яе кожнага ранку,*
*Каб давесці, давесці сабе і яму:*
*Варта стаць ля акна і адкінуць фіранку —*
*Сонца будзе свяціць спадзяванню майму.*

*Сонца вытча бязмежжа, і ў гэта бязмежжа*
*Пабяжыць мая сцежка насустрач тваёй,*
*Абмінаючы лёсу вартоўныя вежы*
*І гады, што вось-вось зарастуць цішынёй.*

*І гады... Ах, як хочацца верыць, паверыць*
*Не гадам, а імклівай сцяжынцы ў гады.*
*Толькі дзе ж яго гэтулькі сіні намераць,*
*Каб хапіла на гэты імпэт маладу!*

*Не дакука ў паглядзе, а вера і мука:*
*За акном — беспрасветны асенні туман...*
*Горкі цукар падману, а ўсё-такі цукар,*
*Мо якраз і ратуе душу той падман.*

* * *

*Няма душы? Тады няма нічога:*
*Не для таго ж прыходзіш з небыцця,*
*Каб накарміць і тым змагчы трывогу*
*За жорсткую няўдобіцу жыцця.*

*Няўдобіца няўдобіцай... Адвеку*
*Наперад не намераеш свой шлях,*
*Не ўкрыешся ні смехам, ні спадзеўкай*
*Ад часу, што ўкарочвае абсяг.*

*Абсяг і шлях! Як ні марудзь ля ганка,*
*Наперадзе, за колькі крокаў,— змрок,*
*Такі ж, як ззаду, за парогам ранка,*
*І марна дакараць бяссілы зрок.*



*Ён, зрок, не вырве з бездані былога*
*І промня вечнасці, як спіць душа.*
*Няма душы? Тады няма нічога,*
*Апроч хлусні, салодкае спярша...*

*Не, не, і ў казках не адно багацця*
*Шукаў, няўцямна прагнуў чалавек:*
*За нешта ж радасцю ці смуткам плацім,*
*Для нечага ж вытоптваем свой век!*

* * *

*Гады? Хто лічыць на гады?*
*Цяжэюць што ні крок хвіліны,*
*І ўжо не абмінуць бяды*
*З адважнай лёгкасцю: павінна!*

*Яно павінна, ды салжэ*
*Былому й будучаму ўсмешка:*
*Бяда не ўсмешку сцеражэ,*
*А сцежку, стомленую сцежку.*

*І колькі ні ўсміхайся ёй,*
*І колькі ні тлумач пра крылле,*
*Чакае — і пасля зямлёй,*
*Як кожнага, ад неба ўкрые.*



*Як кожнага... Адна з уцех,*
*Бяскрыўдных і таму адвечных:*
*Не ставіць вех — не зносіць вех,*
*Час для жывых заўжды сустрэчны.*

*Гукай, як голас маладзы,*
*Жыві, як не баішся платы.*
*Гады? Хто лічыць на гады*
*Удачы, спадзяванні, страты?*

* * *

*У любой прычыны ёсць прычына,*
*На любы вузельчык — сем вузлоў...*
*Што прасцей: любоўю да Айчыны*
*Апраўдаць няпраўду, глупства, зло?*

*Апраўдаць — і, значыць, апраўдацца*
*(Хто ў жыцці памылак не рабіў!),*
*Апраўдацца часам, шляхам, працай,*
*Тым, што родную зямлю любіў.*

*Што прасцей! Мы ж так наіўна верым*
*У любоў сваю, ў сябе саміх,*
*Што даўно і безаглядна мерым*
*Ёю кожны дзень свой, кожны міг.*

*Гэта ж мерка — мерка любавання,*
*Тут даволі слова, колькіх слоў,*
*А любоў — памкненне, парыванне*
*Сцвердзіць шлях свой,*
*лёс свой, зноў і зноў.*

*Зноў і зноў, як колісь дзед і прадзед,—*
*Не за кошт зямлі, за кошт выгод.*
*Мо яно і цяжка — жыць папраўдзе,*
*Але ж праўдаю жывы народ.*

*Праўдаю будзённай, не параднай,*
*Горкай, а то й крыўднаю падчас —*
*Скрозь было: калі маўчала праўда,*
*Пакідала будучыня нас.*

* * *

*Людзі верацъ толькі славе?*
*Толькі смерці! — вось што сумна.*
*У жыцці будзённа-тлумным*
*Толькі смерць пярэчыць яве.*

*Толькі смерць — няхай часова —*
*Рушыць будняў круг магічны,*
*І ў святле яе трагічным*
*Набываюць сілу словы.*

*Лёс, вяршыцель лёсу, геній...*
*Скрозь пазнілася прызнанне,*
*Хоць па завядзёнцы даўняй*
*Абяцала: шлях паверне.*

*Шлях паверне! На кладзішчах*
*І зямлі стае і сонца,*
*І — на ўсе бакі — бясконцы*
*Вецер, вецер, вецер свішча.*

*Гэты вецер — тая ж слава:*
*Ні напіцца, ні сагрэцца...*
*Людзі верацъ толькі смерці.*
*Людзі помняць толькі справу.*

* * *

*А сямі вярхах,*
*А сямі купалах —*
*Не сабор,*
*а дзень,*
*Які рос з надзей,*
*Не адзін век рос*
*Цераз сем нябёс,*
*Цераз сем замоў*
*Ад сямі грахоў.*

*Рос —*
*ва ўсе званы*
*Укруга званіў,*
*Не да службы зваў,*
*А да добрых спраў.*
*І як хто не чуў —*
*Слугаваў мячу*
*І таму*
*з багоў,*
*Хто пракляў агонь,*
*Хто пракляў любоў,*
*Каб займець рабоў...*

*А сямі вярхах,*
*А сямі купалах —*
*Не сабор,*
*а дзень,*
*Куды шлях ідзе,*
*Каб збудзіць званы*
*Даўняй даўніны*
*І адным з нябёс*
*Увянчаць наш лёс,*

*А якім з сямі*
*Ўведаць нам самім,*
*Не цяпер, пасля,*
*Як дагонім шлях.*

*Як дагонім шлях...*







# абжываю сваё адзіноцтва...

* * *

*Абжываю сваё адзіноцтва,*
*Свой спакой, прамяністы знарок,*
*Каб хоць вонкава мець паўнамоцтва*
*Не прыняць аніводзін папрок.*

*Каб хоць вонкава, знешне паходзіць*
*На жанчыну, што знае любоў:*
*Колькі ўсмешак ці слоў, пры нагодзе,*
*Колькі згадак пра дом, пра сяброў...*

*І — ніхто не заўважыць падману,*
*І ніхто не спытае, чаму,*
*Прыкрываючы ўсмешку, як рану,*
*Суцяшальнай рукі не прыму.*

*Людзі звыкнуцца: добра і добра!*
*Кожны іншае славы жадзён...*
*Абжываю свой воблік, свой вобраз,*
*Больш прыдатны для сённяшніх дзён.*





* * *

*Не тое горка, што вятры*
*Любы праменьчык сонца гасяць,—*
*Душа не можа назапасіць*
*Цяпла апошнія дары.*

*І як прымусіш? Недавер*
*Пусціў карэнне і разросся,*
*І на працягу года — восень,*
*І сум высочвае, як звер.*

*Мой даўні сум... Ён зноў і зноў*
*Блукае ўкруг мяне паныла,*
*Чакае, калі я без сілы*
*Ўпаду і выракуся слоў.*



*Слоў і са словамі — душы...*
*Ах, гэты вечны страх пагоні!*
*Ніводнай радасці не ўспомню,*
*А трэба радавацца — жыць.*

*Жыць і тады, калі вятры*
*Задзьмуць, засыплюць лісцем сонца*
*І дождж, халодны дождж бясконцы,*
*У цемру змые ліхтары.*

*У цемру год... Прысуд стары.*
*І ўсё ж не ён надзею згасіць —*
*Душа не мкнецца назапасіць*
*Цяпла апошнія дары.*

* * *

*Караваны хвілін... Караваны гадзін...*
*І пустыня... Пустыня чакання.*
*Быццам час не сябе, а мяне асудзіў*
*На бяссонне і гэта блуканне.*
*Мне абрыдла бяссонне, а мушу цярпець,*
*Мне карціць пасмяяцца, а ў сэрцы*
*Так спакойна і ўпэўнена гнездзіцца смерць,*
*Што я мушу ўсміхацца дасвеццю.*

*Караваны гадзін... Караваны хвілін...*
*Аніводнай сцяжыны за імі*
*Ні ў паўзмроку нябёс, ні на грэшнай зямлі.*
*Што мой голас у гэткай пустыні!*
*Нават рэха не чуе... А я не хачу*
*Прызнавацца, што страх не знікае,*
*І спрабую кагосьці гукаць, і крычу*
*У бязмежжа: «Каго мы чакаем?»*

* * *

*Шчасця сабе пажадаць?*
*Я пажадала б! Канечне!*
*Толькі і сном не ўгадаць,*
*Час — спадарожны ці стрэчны.*

*Зноў на яго скразняках*
*Грэю трывогу і памяць,*
*Шчасце ж — агонь у руках:*
*Як не аслепіць, дык спаліць.*

*Шчасце... Даволі сляпых!*
*Шлях, і цяжкі і крывавы,*
*Не абскакаць на гнядых*
*Лёгкае ўдачы ці славы.*

*Коней загоніш, а шлях*
*Гэтак жа ўпарта, паныла*
*Доўжыцца ў лёсах і днях,*
*Плача над кожнай магілай.*

*Шчасце... Мы хлусім сабе.*
*Хлусім, па-свойму адважна.*
*Возьмеш на позірк глыбей —*
*Жыць і пакутна і страшна.*

* * *

*Душа... Яе, душы, агонь нятленны,*
*Успыхнуўшы ад дотыку агню,*
*Такую асвятляе глыбіню,*
*Што страх перамагае захапленне.*
*На міг перамагае, а пагляд*
*Ужо чарэпкі вечнасці збірае...*

*Чырвона-чорнай глыбай небакраю*
*Да ранку потым стыне далягляд.*





* * *

*У чэрвені — цяпло,*
*У ліпені — сумёты...*
*Мо гэта мне назло*
*Блазнуе адзінота?*

*Ну, што ёй патушыць*
*За сонцам следам зоркі,*
*Калі яны ў душы*
*Патухлі, перш чым згорклі!*

*Ну, што ёй (смех не грэх!)*
*Засыпаць снегам промні,*
*Калі той колкі снег*
*Не растае на скронях!*



*У чэрвені — цяпло,*
*У ліпені — гаркота...*
*Няйначай, мне назло*
*Блазнуе адзінота.*

*І я сабе самой*
*Не веру, бо й на здымках —*
*Я не з табой, а з ёй,*
*Абрыдлай, у абдымку...*

* * *

*Баюся сваёй нематы.*
*У ёй, бы ў замшэлым прадонні,*
*Іржой абрастаюць кусты,*
*Дзічэюць каменныя коні*
*І ў чорных азерцах слядоў*
*Бялее чарэп'е былога...*
*А словы... О, песня з гадоў*
*Выводзіць любую дарогу!*

*І зноў над прадоннем — масты,*
*Дзве нашы сляпыя далоні,*
*І рдзеюць ад кветак кусты,*
*І ржуць асядланыя коні.*
*І столькі нястрымнай тугі*
*У іх нецярплівым іржанні,*
*Што песня звядзе берагі*
*Бяссоннай начы і світання —*
*Мой бераг і твой...*
*Толькі за — нематой!*

* * *

*Было. Было, было!*
*Дасюль з расселін лета*
*Струменіцца святло*
*У свет пагаслых кветак.*

*І змрок, і змрок з дажджом*
*Заліць яго не можа.*
*Ну, што б занесці ў дом*
*Пажар неасцярожна!*

*І ўсё спаліць. Датла.*
*І ўсё пачаць нанова —*
*Ў імя таго святла,*
*Што ўваскрашае слова.*



*І слова, і жыццё —*
*Ці ж мы іх падзялялі?*
*А з дзён, як з верацён,*
*Шляхамі — далі, далі...*

*І кожная шчыльней*
*Ахоплівае памяць.*
*Пажар не ўспыхне, не.*
*Хіба былое паляць?*

*Пагаслы кветнік. Дом.*
*Спакой, размяклы ў часе...*
*Не змрок, не змрок з дажджом*
*Успышкі сэрца гасіць.*

* * *

*Свет такі ж, як раней, малады,*
*Хоць імя яго болей не помню...*
*Памагаючы несці гады,*
*Абярнуліся лебедзі ў коней.*

*І калі я па звычцы пагляд*
*Падымаю, каб небу ўсміхнуцца,*
*Спатыкаюцца коні, назад,*
*Павады абрываючы, мкнуцца.*

*Адпушчу. І да дня не засну.*
*І чакаю, бы з тым адпусціла,*
*Што дагоняць, што вернуць вясну,*
*Каб забраць свае белыя крылы.*

*Не дагоняць. Ледзь золак у двор —*
*І яны з ім, і ношка на спінах,*
*І ў вачах памутнелых дакор...*
*Свет такі ж малады. Ва ўспамінах.*





* * *

*Ізноў баранюся радкамі...*
*Гады суцяшаюць: жыві,*
*Жывая ж — з рукамі, з нагамі,*
*Калі і ў гразі — не ў крыві.*

*Нядоля — яшчэ не няволя,*
*Не ў ковах галечы цяжкой.*
*Цяжкая — жаночая доля?*
*Прырода жадала такой.*

*І марна спрачацца з прыродай.*
*І марна па волі тужыць.*
*Жыццё не пыталася згоды:*
*Жывая — навучышся жыць!*

*А як навучыцца? З гадамі*
*Лягчэй захлынуцца тугой...*
*І зноў баранюся радкамі,*
*Не знаю сама, ад чаго.*

* * *

*Туга ў крыві, застойная, густая,*
*Нічым не абязболіць яе рух —*
*За кругам круг, за кругам новы круг,*
*Глыбее боль, боль у мяне ўрастае.*

*Мінаюць дні, гады — мінае век*
*Непрычаканай радасці, нязнанай...*
*Каго спытаць, за што я пакарана,*
*Хто ён, суддзя мой,— бог ці чалавек?*

*Як бог — маё пракляцце бога знойдзе,*
*Як чалавек — я палюблю яго*
*Усёй тугой, усёй сваёй тугой,*
*І тым адным сплачу свой доўг прыродзе.*

*Плаціць жа трэба — хоць каму! хоць чым! —*
*За гэта пажыццёвае чаканне,*
*За гэты боль, за гэта некаханне,*
*За гэты плач у ночы на плячы.*

*На ўсе бакі дарогу адпускаю,*
*За ўсе гады перабываю боль.*
*Мая туга... Яна была любой,*
*Цяпер — перастаялая, цяжкая.*

* * *

*Жыву і не чую патрэбы,*
*Ні жалю, ні смутку няма.*
*Куды ні павернешся — неба,*
*Куды ні памкнешся — зіма.*

*Зіма. Плямы ночы паўз сцежку.*
*Ды крык варання праз смугу...*
*Баліць, прымярзаючы, ўсмешка —*
*Ніяк адарваць не магу.*

*Вось гэтак, з усмешкай на твары,*
*Чужым, каб не студні вачэй,*
*І стрэнчу то будню, то мары —*
*Па звычцы абрыдлай хутчэй.*

*І толькі (заўжды падсвядома!),*
*Пазнаўшы ў якойсьці з жанчын*
*Сябе,— шчэ чапляюся словам*
*За нітачку горкіх прычын.*

*Была ж, замест стылага неба,*
*Прастора — была і няма.*
*Душу бараню: і не трэба!*
*І крыўдна: сама я... сама...*

* * *

*Небу не ачысціцца ад хмар:*
*У яго абрыдла-бляклай стыні*
*Мала сонца, яшчэ меней сіні...*
*Што бяссілы, цьмяны мой ліхтар!*

*Хукаю, адхукваю агонь,*
*А святла з яго — самой паўжмені:*
*Толькі пазбірае, згрудзіць цені —*
*І згасае, ўткнуўшыся ў далонь.*

*Зноў яго качай у далані,*
*Зноў прасі пашчыраваць хоць трохі:*
*Недзе ж у запасніках эпохі*
*Ёсць — напэўна ёсць! — другія дні.*

*Трэба верыць, верыць і свяціць*
*Тым, другім, цяплейшым, далячыням,*
*Хай агнём (жыццём!) вось гэтай стыні*
*За цяпло — за неба! — заплаціць.*

*Трэба верыць. Верыць да канца,*
*Да апошняе сваёй хвіліны:*
*Неба ўсё ж ачысціцца — павінна! —*
*Як калісьці лёс мне абяцаў.*



* * *

*Я зямная, я ўсё-ткі зямная!..*
*Я два лёгкіх крылы аддаю*
*За сцяжынку даждлівага маю,*
*За трывожную ўсмешку тваю.*

*Гэта сцежка па сэрцы блукала*
*І чародкі шчаслівых надзей,*
*Як на волю, ў жыццё адпускала,*
*Гэта ўсмешка за ёй нас вядзе.*

*Нас! І ты мне не можаш адмовіць:*
*Ты далёка, і, значыць, ты — мой,*
*Значыць, чуеш бяссонную споведзь —*
*Словы-слёзы любові зямной.*

*Колькі ззяння ў слязах гэтых першых!*
*Колькі радасці ў першай журбе*
*Па нязбыўнаму! Побач — бязмежжа,*
*А нашто яно мне без цябе?*

* * *

*Прыручаю вечар, прывучаю*
*Да сваёй далоні вышыню:*
*Трэба ж выдраць карані адчаю*
*З нетраў яе, каб аддаць агню.*

*А то пусцяць парастак атрутны,*
*Не паспею азірнуцца — цень,*
*Чорны цень укрые ўсё нячутна...*
*Дзе тады шукаць вось гэты дзень?*

*Ён звычайны быў. З будзённым імем.*
*І сказаў: «Люблю!» — бы ў першы раз.*
*Вуснамі... Усё адно — чыімі!*
*Ён сказаў: «Люблю!» — і раптам згас...*

* * *

*Любоў, любоў... Мы клікаем любоў,*
*Не знаючы, якая гэта мука —*
*Распяць сябе і на крыжы, бязрука,*
*Чапляцца за жыццё няхітрых слоў.*

*Хай вечных слоў, ды слоў —*
*ні больш ні менш,*
*Любоў не выжывае ў іх палоне,*
*Як і ў набітым спомінамі доме! —*
*Ёй трэба воля, што не знае меж.*



*А гэткае — няма. Па ўсёй зямлі*
*Адно забытыя людзьмі распяцці*
*(Хто працай ратаваўся, хто закляццем)*
*Згадаюць, што ўлюбёныя — былі.*

*Былі. І ёсць. І кожны — на крыжы,*
*На скрыжаванні стрэчы і разлукі,*
*Распяты мукай, невыноснай мукай,*
*Спрабуе жыць — змагчы любоў і жыць.*

*Забіць любоў і жыць...*

* * *

*Душа ўстрывожана. Душа смуткуе.*
*Так, як смуткуе скрозь на схіле дня,*
*Калі вось-вось дап'е смугу цяжкую*
*Натомленая сонцам цішыня.*

*Здаецца: міг, другі — і ўсё патоне*
*Не ў суцемках густых, а ў небыцці,*
*І нават снам, абернутым у коней,*
*Не выплысці адтуль, не даплысці.*

*Цямнее далеч... Доўжу міг і доўжу!*
*Цямнее смутак... Слепа прагну слёз!*
*І горка думаць, знаць, што пераможа*
*І гэты міг і гэту роспач — лёс.*

*Узыдзе неба, ахіне мне плечы,*
*Азорыць сцежку, збудзіць галубоў...*
*Душа смуткуе, бо смуткуе вечар,*
*Згадаўшы словы з песні пра любоў.*

*Душа смуткуе, бо смуткуе вечар...*

* * *

*Штонач прылятае твой жораў*
*І кружыць ля вокнаў маіх.*
*Гукну тваім імем — на міг*
*Застыне і знікне між зорак.*

*І зоркі — слязамі ў вачах,*
*І горка ад слёз тых у сэрцы:*
*Мо гэтак жа холадна ў свеце*
*Табе, як і мне, па начах.*

*Мо гэтак жа страшна... Без слоў,*
*Без сіл — прад жыццём і любоўю...*
*Не, не! Ты не зведаеш болю*
*За гэту любоў — за любоў!*

*Ты — з тых, хто трывогай за свет*
*Шчаслівы або нешчаслівы.*
*Таму я штонач так тужліва*
*Гляджу твайму жораву ўслед.*

* * *

*Я столькі раз паперы давярала*
*Тугу па тых, каго магла любіць,*
*Я так гарэла — сэрца выгарала,*
*Мне той касцёр давеку не забыць.*

*Хапала позірку, усмешкі, слова,*
*Каб полымя ўскідалася да хмар,*
*Спрачаючыся з выссю перуновай,*
*З магутнасцю яе п'янлівых чар.*



*Сабе самой хвілінамі чужая,*
*Была агнём і клікала агонь —*
*І гэта сярод тых, каго пужае*
*І іскарка, што трапіць на далонь.*

*І гэта сярод тых, хто нарадзіўся,*
*Каб грэцца, не гарэць...*
*Святы гасподзь!*
*Аслепла перад вогненнаю выссю,*
*Адно каб зразумець: ад плоці плоць...*

* * *

*Таўро граху? На мне?*
*Лёс, пэўна, за старое...*
*Любоў — не па цане,*
*Калі плаціць крывёю.*

*Ну, што ж. Хай льецца кроў,*
*Хай вымывае з сэрца*
*Цяжкія згусткі слоў —*
*На сметнік іх! на смецце!*

*Хто сёння, ў век гульні,*
*То з госпадам, то з д'яблам,*
*Шукае чысціні?*
*І потым... Быў жа яблык.*

*Што-што, а яблык той*
*За плот не закаціўся.*
*І марна слепатой*
*Апраўдваць пустку высі.*

*Там пуста — пуста ў нас,*
*Наскрозь ужо, здаецца.*
*На скразняку ўвесь час,*
*Ля сэрца не сагрэцца.*

*І, ўцягнутыя ў гон,*
*Гаворым, плачам, любім*
*Адзін паўз аднаго,*
*Паўз тога, каго губім.*

* * *

*Усміхаюся на жаданне*
*Прыхаваць, прыглушыць імпэт*
*І паходзіць на ўсе паданні*
*Пра шчаслівы паэтаў свет.*

*Гэта ж трэба дарэшты сцерці*
*Ўсё, чым столькі гадоў жыла,*
*А жыла і, жывая сэрцам,*
*Ад святла яго скрозь піла.*



*Ад святла яго — ад любові...*
*О, які вясёлы пажар:*
*Ў кожным споміне, кожным слове*
*Чуеш жар, раздзімаеш жар.*

*Каб аднойчы — і разам! разам! —*
*Дагарэлі датла гады:*
*У няўмольнасці іх — абраза*
*Для таго, хто быў маладым.*

*Лепей разам — праз несціханы*
*Гул агню і пошум лісця,*
*Смела, гэткай вось, закаханай,*
*Адысці за мяжу жыцця.*

*Лепей разам! — каб за гадамі*
*Не памкнуўся дрыготкі след...*
*Усміхаюся на жаданне*
*Прыхаваць, прыглушыць імпэт.*

* * *

*Я не любіла. Я жыццё ляпіла*
*Падобным на жаночую любоў.*
*Ляпіла з вечных, як жыццё, памылак,*
*Не ведаючы, што такое боль.*

*Балела. Ды не так, каб да знямогі.*
*Я чула: калі д'ябал пераняў,*
*То без малітвы не ўтрымаць дарогі,*
*Як без аброці не ўтрымаць каня.*

*А дзе было душы займець малітву?*
*Між пошлых жартаў? У абдымках тых,*
*Хто спавядаў адступніцтва адкрыта?*
*У трэбніках прыдуманых святых?*

*Я не любіла. Страшна: я, жанчына,*
*Любіць зусім не ўмела. Не магла.*
*Адно што толькі волю прыручыла,*
*Адно што толькі сум перамагла.*

*Чаму ж цяпер баліць любы аскепак*
*Мінулага, сляпых яго начэй?*
*Зірну назад, на той, жахлівы, злепак,*
*І потым доўга не падняць вачэй...*

* * *

*Уратуй і памілуй сляпую, жыццё,*
*Я не знала дасюль, што сляпая,*
*Што адзіна бяссонным чуццём, пачуццём*
*Чула шлях і крыло небакраю.*

*Небакраю ці далечы... Гэта крыло*
*Будзе цішу студзіць нада мною,*
*Над усім, што было, што жыло, што цвіло*
*Для мяне, нарачонай зямною.*

*Не хачу! Уратуй і памілуй мяне,*
*Дай адпіць, дай напіцца любові,*
*Перш чым час, мне адпушчаны лёсам, міне,*
*Перш чым прага растворыцца ў слове.*

*Цуд любові... Я веру ў яго ўпершыню.*
*Я не знала дасюль, што сляпая,*
*Што не бачу, не ўбачу, як прэч ад агню,*
*Ад святла яго ў цемру ступаю.*

*Дык раздзьмі той агонь, каб да зор палымнеў,—*
*Перш чым прага растворыцца ў слове,*
*Перш чым час, мне адпушчаны лёсам, міне,*
*Дай адпіць, дай напіцца любові!*

* * *

*На вуснах апалінай чорнай,*
*Апёкам — сляпое «Люблю!» —*
*Агонь... Ува мне ён пакорны.*
*А вырвецца — ўсё загублю.*

*І так ужо рушыцца неба,*
*Што складвала з дзён і начэй,*
*І здрадліва таннае срэбра*
*Дажджом у далоні цячэ.*

*І дождж гэты радасць не спыніць —*
*Да мук яшчэ трэба дажыць! —*
*А помач... Укруг, як пустыня,*
*Маё адчужэнне ляжыць.*





* * *

*Змагацца за каханне... З кім?*
*З той, хто сястра мая па лёсу?*
*З сабой? З нахлебнікам нябёсаў,*
*Якому моляцца вякі?*

*Не, не, хай вырашае лёс,*
*І вырашае так, як хоча:*
*Ён каштаваў — і неаднойчы —*
*І слодыч дум, і горыч слёз.*

*Ён ведае ўсю глыбіню*
*Пакуты, што са мной сталела,*
*Кахання, што ў душы збалелай*
*Скрозь не знаходзіла агню.*

*І вось цяпер, калі ўва мне*
*Успыхнуў той агонь нятленны,*
*Хай дасць яму спаліць сумненні*
*І вырасці — або задзьме!*

*Лёс лепш, чым я,— не ўпершыню —*
*Разважыць, вырашыць, рассудзіць.*
*І потым... Будзе так, як будзе.*
*Я ўдзячна гэтаму агню.*

* * *

*Хіба гэта віна, што я жанчына?*
*Што пецъ спрабую, плачучы ў душы?*
*Жыццё мяне любіць не навучыла*
*І не пыталася, чым буду жыць.*

*А шлях прыспешваў: лялькі, сны, замужжа...*
*А клопат рос: работа, дом, гады...*
*І самай позняй, самай яркай ружай*
*Даўно не адкупіцца ад бяды.*

*Я не здалею палюбіць. Збаюся.*
*Ці не схачу адчуць сябе слабой,*
*Бездапаможнай, у нязнанай скрусе,*
*Перад любоўю і перад табой.*

*Згараю ў іншым полымі — слабую,*
*Мяне прымусілі б яго тушыць...*
*Я не шкадую. Бачыш: пецъ спрабую,*
*Не слухаючы ўсхліпванняў душы.*



* * *

*Звыкаюся з сабой і з цішынёй,*
*Што раптам ува мне зазелянела,*
*Што прагне зацвісці і цветам белым*
*Асыпацца над сцежкаю тваёй.*
*Над лёсам... Ды прадоўжыцца твой лёс*
*Вось гэтай першай радасцю маёю,*
*Вось гэтым святам, гэтай цішынёю —*
*За крок ад шчасця ці за крок ад слёз!*
*Я не прыспешваю жыццё: ў жыцця*
*Са мною скрозь свае былі разлікі...*

*За крок ад шчасця кожны з нас вялікі,*
*За крок ад страты кожны з нас дзіця.*

* * *

*Любоў?*
*Гляджу на сонечны адбітак*
*У люстры — і сябе не пазнаю:*
*Ніколі не лілося так адкрыта*
*Бязмежнае святло ў душу маю.*
*Ніколі — песняй! — пошчак салаўіны*
*Не мкнуўся так святочна ў вышыню,*
*Якую лепяць словы і ўспаміны,*
*Агнём дапамагаючы агню.*

*Любоў?*
*Гляджу на дрогкі след далоні*
*На люстраной паверхні — і за ёй,*
*Уздыбленыя табунамі коней,*
*Гудуць прасторы цішыні зямной.*
*Дыханне ветру, водар яго горкі*
*Ўзрывае цішыню за кругам круг.*
*Згасаюць сонцы — выкіпаюць зоркі —*
*І доўжыцца — святлом! імкненнем! — рух.*
*І доўжыцца шчаслівае натхненне,*
*Калі вышыні і святло — ў душу,*
*Бы ўсё маё жыццё — адно імгненне,*
*Партрэт якога радасна пішу.*
*Любоў?*

* * *

*Я не баюся пачуцця,*
*Што затапіла ўсё былое —*
*Яго крывінкаю малою*
*Далучаная да жыцця.*

*І да цябе... Баюся шляху:*
*Ну, як, не звёўшы, развядзе?*
*І ты паверыш не бядзе,*
*Спакою, што не знае страху?*

*Баюся і ўсё тку і тку*
*З гадзін, афарбаваных шумам,*
*Той шлях між намі, сумны-сумны,—*
*Па дню, па нітцы, па радку!*

*І не шкадую, што згублю —*
*Магу згубіць! — усё дазвання.*
*Калі б не гэта шчыраванне,*
*Што значыла б маё «люблю»?*

* * *

*Люблю не цябе, свайго бога ў табе —*
*Здалёк, у маленні.*
*Шукаю адхлання і ўцехі ў журбе*
*Па волі ўяўлення.*

*Навошта ж чакаць, што журба адгарыць*
*І згаснуць жаданні,*
*Як можна (душа да душы!) гаварыць*
*Начамі — гадамі?*

*Як можна (душа праз душу!) зразумець:*
*У моўленым слове*
*Бяспраўная — усемагутная смерць,*
*Улада — ў любові.*

*Любові пакутнай, пакутна-цяжкой —*
*Адзіна сапраўднай.*
*Шчаслівае слова — заўжды пад рукой...*
*О, гэта няпраўда!*

*Шчаслівае слова прыходзіць тады,*
*Як шчасце прыходзіць,*
*Раней абмінуўшы чужыя гады,*
*Чужыя стагоддзі.*

*А прыйдзе — і вось ужо грэе агонь,*
*Запалены ў слове,*
*І зноўку люблю я і бога свайго*
*Знаходжу ў любові.*

* * *

*Адпіўшы ад твайго агню,*
*Апёкшыся тваёй самотай,*
*Я берагу, я бараню*
*Не той агонь твой, а пяшчоту.*

*Пяшчоту губ, пяшчоту рук...*
*Ён быў, наш дзень! Ён недалёка.*
*Ва мне ўсё доўжыцца той гук —*
*Той рух прасторы між аблокаў.*

*Прыкрыю вочы — і плыве,*
*Сплывае, лёгкая, як песня,*
*І столькі золата ў траве,*
*І столькі сіні ў паднябессі,*

*Што сэрца чуе вышыню,*
*І лёс прыкідваецца хатнім,*
*І хочацца паверыць дню —*
*Любому з дзён маіх астатніх!*





* * *

*Лебедзь белы — човен белы! —*
*Тоне ў люстры цішыні,*
*І рукой маёй нясмела*
*Дзень імгненне прыпыніў.*

*Узіраюся — да рэзі,*
*Да пякуча-горкіх слёз:*
*Што, як белы знак на снезе —*
*Знак, які сцірае лёс?*

*І пасля ніводным словам*
*Не азвацца цішыні,*
*Гэтай, зімняй, ці вясновай,*
*Каб лічыць пустыя дні?*

*І пасля... Мо страх і марны,*
*Ды адкуль тады ён, страх?*
*Неба ўсім цяжарам хмарным*
*Цісне, стрымлівае шлях.*

*Човен белы — лебедзь белы...*
*Мне б яго крылаты сум!*
*Мне б знайсці душы збалелай*
*Гэткі схоў ад горкіх дум!*

* * *

*Я сеяла надзеі, а цвілі*
*Ад чырвані цяжкой цяжкія макі,*
*Выплёскваючы свой гарачы накіп*
*У дзень ці ў ноч, на кожны ўздых зямлі.*

*І як было вярнуцца ў цішыню*
*Ці цішыню вярнуць зямлі згарэлай,*
*Не ведала я ці, хутчэй — не ўмела,*
*Бо сеяла агонь упершыню.*

*Мне думалася: колькі тых надзей,*
*Іх залатога, сонечнага зерня!*
*Адно — засеяць міг, адно паўжмені...*
*А дзень і ноч агонь вакол гудзе.*

* * *

*Паляна суніц, некранутае дзіва...*
*I воч не адвесці, і страшна глядзець,*
*Нібы сакавіта-крывавую чырвань*
*Не лета выплёсквае ў раніцу — смерць.*

*I ўжо не паспець адхіснуцца, стаіцца*
*I выжыць для веры ў жыццё, для жыцця:*
*Над ім — над зямлёй — ускіпаюць суніцы,*
*I плача прасцяг (ці душа?), як дзіця.*

*Навошта? За што? Гэта ж тая паляна,*
*Якую шукала і ў яве і ў снах,*
*Каб стрэцца з каханнем,*
*каб стрэцца з каханым*
*I водар сунічны адчуць на губах.*

*Адчула ж, як холад зацягвае ногі,*
*Бы ў багну, у дол, ад лісця трапяткі,*
*I горыч, атрутная горыч трывогі*
*Бруіцца па жылах маіх у вякі.*

*Навошта? За што? За каго пакарана?*
*Мо позна прыйшла...*
*Мо прыйшла дужа рана...*

* * *

*Хай радасць і пакута — спарышы,*
*Не радасць, а пакута адарыла...*
*Цяжкія крылы музыкі, а крылы,*
*Адзіна падуладныя душы!*

*Ледзь развінуцца — ўсёю глыбінёй*
*Уцягвае сусвет у вір свой зорны,*
*І што пужае, стала ілюзорным,*
*І што чакае, перабыта мной.*

*Працягла-таямнічы доўгі гук,*
*А выбухне — чуваць дыханне сэрца,*
*Якое не з грудзей, з прасцягу рвецца*
*Уніз, насустрач да прасцёртых рук.*

*Я кожнай тканкай памяці сваёй*
*Уцягнута ў бяссоннае кружэнне,*
*У гул яго, ў бясконцае збліжэнне*
*Дзвюх сцежак, двух чаканняў з цішынёй.*





* * *

*Не раз прыгадаю ў цішы*
*Дзівосна-чароўныя зыкі,*
*Што біліся ў пальцах музыкі*
*Над струнамі-снамі душы.*

*Хто быў ён, каму ён іграў,*
*І сам ён, напэўна, не помніў —*
*Іграў, быццам зорныя промні*
*З прадоння душы выбіраў.*

*Мелодыяй быў гэты рух,*
*Бясцелы, амаль немагчымы:*
*За ім — у мяне за плячыма —*
*Працяг вырастаў з завірух.*

*І зноўку тануў у цішы*
*Пад тыя чароўныя зыкі,*
*Што плакалі ў пальцах музыкі*
*Над струнамі-снамі душы.*

*О, мне не забыць тых мінут,*
*Мелодыі той непаўторнай!*
*Не раз прыгадаю, як зорна*
*Світае ў душы ад пакут...*

* * *

*У голасе віяланчэлі смутак*
*Усіх маіх гуканняў да цябе*
*Праз ноч, праз холад высі, не кранутай*
*Ніводным зорным промнем,— холад люты,*
*Што і на міг кароткі не слабеў.*

*І словы біліся ў яго цянётах,*
*Змярзаючыся ў камякі начы,*
*І падалі — і ўкруг раслі сумёты*
*Халоднай, спаконвечнае самоты,*
*Дзе ўжо мяне пільнуюць крумкачы.*



*Не дагукацца! Цэлы свет між намі,*
*І свет, і высь халодная паўзбоч...*
*Ты слухай замець, дзіўных гукаў замець:*
*У голасе віяланчэлі — памяць*
*Пра смутак, мною выплеснуты ў ноч.*



* * *

*Здрадца — лёс? Не веру. Не паверу.*
*Мы скаваны. Мы ў адным чаўне.*
*Човен тоне, але ж вось ён, бераг,*
*Гэткі, як і мроілася мне.*

*Недасяжна сонечны. Высокі.*
*Побач. Мы амаль што даплылі!*
*І, напэўна, колькі ўсплёскаў звонкіх*
*Данясе да берага прыліў.*

*Колькі ўсплёскаў, колькі згадак горкіх*
*Паглыне загадкавая сінь.*
*Каб над ёй — на міг — заззяла зорка...*
*Што ж, і гэта дадзена не ўсім.*

*Усміхаюся на ўсмешку лёсу.*
*Мы — сам-насам. Мы ў адным чаўне.*
*Човен тоне, але ж бераг — вось ён,*
*Гэткі, як і мроілася мне!*

* * *

*Не я ў адзіноце, ва мне адзінота.*
*Расце, разрасцецца карэнне яе —*
*І выцягне, высмакча з сэрца пяшчоту,*
*І высушыць, вытанчыць словы мае.*

*І як не спяшацца, не прагнуць даверу*
*Вось гэтых кароткіх імгненняў з табой?*
*Імгненне мінае — яно як адмерла:*
*Ні смутак яго не вяртае, ні боль.*

*Ні боль... Я не ўмею пазбавіцца болю.*
*Не ўмею. А праўду сказаць — не хачу.*
*Я выжыву болем і, значыць, любоўю*
*Ні смерці, ні памяці не заплачу.*



# ... не знаю бога – і малюся богу...

* * *

*Не знаю бога — і малюся богу,*
*Не веру словам — і так прагну слоў!*
*То праганяю, то заву дарогу —*
*І з рук кармлю любога з салаўёў. —*

*Любога — не свайго! — і гэтай мукай*
*Плачу за той адзін шчаслівы дзень,*
*Які спрабуе размяняць разлуку*
*На залатыя іскаркі надзей.*

*Успыхвае надзея — і згасае,*
*Ціішэе боль — і ўспыхвае глыбей.*
*І ўжо здаецца: песня ўваскрасае,*
*І ўжо здаецца: шчасце пры табе...*

*Я помню, я згадала б гэта шчасце*
*І адалела згадкаю тугу —*
*Адно што ні пазычыць лёс, ні ўкрасці*
*У шчаслівейшай песні не магу.*





* * *

*Сады лятункаў...*
*Колькі іх згарэла*
*З карэннямі, датла,*
*Ў маёй душы!*
*Іх прах, іх попел,*
*Мёртвы, пачарнелы,*
*Сляпіў мяне*
*Ці свет вакол тушыў.*

*На міг, на дзень...*
*А ўжо жыццё мінае!*
*На колькі вёрст...*
*А ўжо зямлі няма!*
*Любоў прыйшла,*
*А чым стрaчаць, не знаю:*
*Згарэла ўсё —*
*Спаліла ўсё сама.*

*Адно што позірк*
*Цепліцца дагэтуль,*
*Сагрэты*
*Непазбыўнаю журбой.*
*Ды што журботнае цяпельца —*
*Лету?!*
*Вось і любоў*
*Не кліча за сабой.*

*Прыйшла. Збудзіла боль.*
*Збудзіла песню.*
*Адкрыла бездань,*
*Над якой іду*
*Па кладцы веры*

*Ў новае прадвесне,*
*І сочыць:*
*Упаду ці не ўпаду.*

*Вось і любоў*
*Не верыць ва ўсяўладнасць*
*Слоў, што маглі*
*І не ўтрымалі час,*
*А прывялі яе*
*І вып'юць радасць*
*І горыч стрэчы —*
*За мяне... За нас.*

* * *

*Ламаўся дзень, як лёд у крыгалом,*
*Ламаўся кліч, упушчаны ў парозе.*
*Рванулася — і выплеснуўся позірк*
*Балючым, перастоеным святлом.*

*Ты зразумеў. Ты ўбачыў мой спалох.*
*І прыгарнуў, гарнуў мяне далонню,*
*Плячыма захінаючы прадонне*
*Там, дзе дагэтуль жыў звычайна бог.*





* * *

*Шматок святла — з далонь,*
*А сэрца чуе: неба!*
*Не дзень, яго агонь*
*Застыў, з'інеў у вербах.*

*І варта мне адно*
*Счакаць, стрымаць дыханне —*
*Дзень стане новым днём*
*Жыцця майго, кахання.*

*А я бягу — сама —*
*Насустрач той лавіне*
*Начы́, ў якой зіма*
*Са мною разам згіне.*

*Бягу, каб пераняць*
*Не сцежку, кліч балючы...*
*Звіняць — не адзвіняць*
*Ільдзінкі зор над кручай.*

*Расце, цяжэе гул:*
*Даўно павінна ўпасці,*
*А ўсё бягу, бягу*
*За смерцю, як за шчасцем.*

* * *

*Каб раптам уначы прачнуўся дзень!*
*Я чула: ён атросся ад падзей*
*І, нацягнуўшы неба на падрамнік,*
*Вясёлым пэндзлем у жыццё макнуў —*
*І сонца пацякло па палатну*
*Празрыстымі сцяжынкамі світання.*

*Я чула: ён мяне пацалаваў —*
*І зацвіла пасохлая трава,*
*І зацвіло над яблыкамі голле.*
*Кружыўся горад. Плыў праз горад сад*
*Кудысьці ў прамінулае, назад,*
*Уцягваючы ў гэты рух наўколле.*

*Рух, паслухмяны волі мастака...*
*Я чула, як кранался рука*
*Маёй шчакі, павекаў, срэбра ў грыўцы,—*
*І спрабавала затрымаць яе,*
*Пазнаць, прачнуцца... Ночы не стае.*
*Звычайны дзень спяшае паўтарыцца.*

* * *

*Не верце люстэрку: мая сівізна*
*Душы не кранулася і не кранецца.*
*Старая няпраўда, што толькі вясна*
*Усмешкай снягі ператворыць у квецень!*

*І я гэта ўмею. Таму халадоў*
*Зусім не баюся. Хай зімы, хай сцюжы!*
*Мне хопіць цяпла, каб на сцежках гадоў,*
*Паўзбоч іх, цвілі, усміхаліся ружы.*

*Мне хопіць цярпення не ўведаць таго,*
*Натхненнем ці болем плачу я за ўменне*
*З усмешкаю несці ў далонях агонь —*
*Адтайваць, засвечваць, расквечваць імгненні.*

*Пакуль ён палае — усюды вясна:*
*У згадцы, у мары, у доме, у свеце!*
*Схавайце люстэрка. Мая сівізна*
*Душы не кранулася і не кранецца.*

* * *

*Свет сонечны і малады!*
*Я адганяю згадкай згадку*
*І ўсё лічу, лічу гады*
*Штораз наноў, штораз спачатку.*

*І не хачу зманіць — зманю,*
*Каб выйшла: не гады не ўспомню,*
*А гурт чужых шалёных коней*
*У споміны не заганю.*

*Стрымаю аднаго — другі*
*Наўцёк кідаецца імкліва,*
*Уцекача ўхаплю за грыву —*
*Заб'ецца трэці ў трысцягі...*

*І так бясконца. Так штораз.*
*Не звабіць ні гады, ні коней.*
*Яшчэ б, калі сатканы з промняў*
*І шлях, і высь над ім, і час!*

*Як і раней, як і заўжды,*
*Свет апантаны маладосцю,*
*Жыццём, імпэтам маладым —*
*І справа не ў маім узросце.*

* * *

*Сасновы бор — як вечавы сабор,*
*Між мной і небам, вечнасці адкрытым...*
*Не знаючы ніводнае малітвы,*
*Шапчу тваё імя, душы ў дакор.*

*Шапчу ўсё зноў і зноў — каторы раз! —*
*Па-святатацку, пэўна, недарэчы,*
*А дзіва адбываецца: ў адказ*
*Званом азваўся, скалыхнуўся вечар.*

*І звон, задумліва-ўрачысты звон,*
*Паплыў, панёс імя тваё ў бязмежжа,*
*Насустрач сонцу іншых, новых дзён,*
*Такіх жа чыстых і іскрыста-снежных.*



*Табе пашчасціць стрэціць тыя дні!*
*Не знаючы, што я ўжо заўтра страчу,*
*Стаю перад бязмежжам вышыні*
*І плачу, ўпершыню так светла плачу.*



* * *

*Прыходзіць каханне, і словы*
*Нямеюць у ковах яго,*
*Хоць гэтыя лёгкія ковы*
*Для віду, не болей таго.*

*Хутчэй ужо лёгкія крылы,*
*Два лёгкіх, як цені, крылы:*
*Пад імі — калыскі й магілы,*
*Над імі — вякоў купалы.*

*Відочна: над імі, пад імі...*
*А як зазірнуць у душу,*
*Дзе словы, заклятыя імем,*
*І імем не разварушу?*

*І каб жа адно анямелі! —*
*Баляць у сваёй немаце,*
*Як скрозь у жыцці не балелі,*
*А боль іх расце і расце.*

*І нельга трываць, і трываю,*
*Без жалю, сама прад сабой:*
*Даўно толькі болем жывая,*
*Баюся, што страчу і боль.*

* * *

*Ружа ў келіху... Гэта было.*
*У мяне яна ў келіху ранка,*
*На акне, што ляціць у святло*
*За сарванаю ветрам фіранкай.*

*Я баюся ступіць да акна,*
*Удыхнуць яе водар гарачы*
*І, схмялеўшы нібы ад віна,*
*Зразумець, што не шчасце я страчу.*

*Значна болей, чым шчасце,— сябе,*
*Патушы я вось гэта цяпельца...*
*Хай не рух мой акно разаб'е,*
*Хай не ранак расплёскаю, сэрца!*

*Ёсць жа права — жыццём аддарыць...*
*І ніхто не асудзіць — не зможа! —*
*Покуль гэтак адчайна-прыгожа*
*Ружа ў келіху ранка гарыць.*

* * *

*Зноў сонца ў паўнеба. І страшна,*
*Што доўжыцца, доўжыцца міг:*
*Успыхваюць пацеркі з яшмы*
*За дотык ад вуснаў тваіх.*

*І потым — ні вусны, ні пальцы*
*Не могуць сабраць іх святло*
*І нам тым святлом апякацца,*
*І нам... Што было, то было!*

*І сонца ў паўнеба. І неба,*
*І той, ім асветлены міг.*
*І спамінаў чыстае срэбра.*
*І пацеркі з яшмы да іх.*

*А потым... Нічога, што потым*
*На тысячу вёрст — ні адной,*
*Якую б не мецілі слоты,*
*Са мной тваё сонца, са мной.*

*На кліч адгукаецца памяць —*
*Зямная між згадак зямных! —*
*І пацеркі ціха ўздыхаюць*
*За дотык ад вуснаў тваіх.*

* * *

*Салоўкам абернецца сад,*
*І ноч яму стане гняздоўем,*
*І я, як жыццё ўжо назад,*
*Убачу сябе маладою.*

*Такою, якою ў жыцці*
*Была толькі ў песні, у слове:*
*Усмешка ды два азярцы*
*Вачэй — на сцяблінцы любові.*



*Усмешка ды ззянне вачэй,*
*Асветленых шчасцем да донца...*
*Дагэтуль над сцежкай цячэ*
*З дня ў дзень — пацяжэлае сонца.*

*Дагэтуль, слабей і слабей,*
*Імкнуся з гарачага гулу...*
*Так доўга чакала цябе,*
*Так верна: жыццё прамінула.*

* * *

*Учора і заўтра... Заўжды.*
*Што вечнаму вечнасці межы!*
*І міг, і стагоддзі належаць*
*Бяссонным шляхам маладым.*
*Любоў адагрэе любоў —*
*І ў згаслых, знявераных сэрцах*
*Гняздуюцца зоркі, і вецер*
*Мяняе на іх галубоў...*
*Прабач нас, любоў!*

*Учора і заўтра... Заўжды.*
*Што высілкі смерці — жываму!*
*Паспець бы адвесці ад дому*
*Пагрозу сусветнай бяды,*
*Любоў адагрэе любоў —*
*І ў змрочным, знявераным свеце*
*Вяснова ўсміхаецца квецень,*
*І неба — адно з галубоў...*
*Прабач нас, няўдзячных, любоў!*

# душу гняце бездапаможнасць слоў...



* * *

*Душу гняце бездапаможнасць слоў,*
*Бездапаможнасць веры ў іх уладу.*
*У суддзях праўда, раскашуе — зло,*
*Ў пашане талент, хціўцы — пры пасадах...*

*І што тут зменіць абяцанне змен?*
*Што абароніць вернасць запаветам?*
*Міжволі ўспомніш дзедаўскі бязмен,*
*Які хацеў узважыць сілу ветру.*

*На тое й вецер, каб ірвацца з рук,*
*На тое й сіла, каб не мець спачыну...*
*Бязвер'е ж — сіла, што не знае мук,*
*Не помніць мук, прынятых за Айчыну.*
*Прынятых тымі, хто папраўдзе жыў,*
*Змагаўся праўдай, словам яе кожным,*
*І за яе сканаў — не на крыжы,*
*На скрыжаванні бальшакоў астрожных.*



*Хто сёння не збаіцца мук (хто з нас?)*
*За праўду і Айчыну? Час паўпраўды?*
*Але ж ён наш, ён намі створан, час,*
*Такім, які б усё і ўсіх апраўдваў.*
*Вось і апраўдваў. Вось і апраўдаў.*
*Няма ні вінаватых, ні герояў.*
*І страшна адмахнуцца — не бяда! —*
*І страшна думаць: пойдзе на старое...*

* * *

*Пад дождж! — і далей ад былога,*
*Ад думак, што стрэла бяду*
*І, ўзяўшы на плечы дарогу,*
*Па крузе ішла і іду.*

*Што ведала толькі пакуту,*
*І горкі, цяжкі яе чад*
*Атручваў любую мінуту...*
*Так, можа й, зашмат было страт.*

*І ўсё ж не яны вызначалі*
*Мой лёс і пражыты той дзень.*
*Заўжды ўраўнаважвала шалі*
*Бязважкае ззянне надзей.*

*І сёння знаходжу ў тым ззянні*
*Зярняты далёкіх часоў.*
*Ім вырасці б! — да каласоў! —*
*Да слоў! — калі дождж перастане...*

* * *

*Азваўся лес на ўсплёск начнога ветру,*
*Азвалася душа на ўсплёск галін —*
*І ў паўпразрыстым трапяткім паветры*
*І цені і ўспаміны ажылі.*

*Спляталіся бязважкія іх рухі,*
*Ледзь чутна прырастаў да ўздыху ўздых,*
*І выпрастай я, выцягні я рукі —*
*Адчула б цёплую бясцеласць іх.*

*Але і я была скавана ноччу*
*І знала: гэту скруху не змагчы,*
*Хоць успаміны — чыста па-жаночы,*
*Праз слёзы,— усміхаліся з начы.*

* * *

*Падманнае цяпло,*
*Падманная дарога,*
*Якой яно сцякло*
*У снежную аблогу.*

*Ступіла ўслед — і след*
*Павіснуў над прадоннем,*
*І з крыкам сцяўся свет*
*Да знічкі на далоні.*

*Заціснуўшы далонь,*
*Чапляюся адзіна*
*За боль, за той агонь,*
*Які ўтрымаць павінна.*

*Павінна. Ды і ў сне —*
*Боль проста невыносны!*
*Я падаю. У снег.*
*Праз воблакі і сосны.*

*Чакаю, што вось-вось*
*Прачнуся... А бяссонне*
*Ўздыхае над наскрозь*
*Прапаленай далонню.*

* * *

*Начное рэха гулкае качае*
*Маё маўчанне — і ўздыхае ноч,*
*Пачуўшы крык, бяссонны крык адчаю:*
*Няма, няма прытулку — неба ўзбоч.*

*А неба рушыцца, яно ў разломах*
*Аголена да самай глыбіні,*
*Дзе зорная струхлелая салома*
*Згарае ў чорным ледзяным агні.*



*Яна згарае, а на мне — апёкі,*
*Як потым пустка чорная — ва мне.*
*Нібы ўзапраўду шлях мой адзінокі*
*Не ў цішыні, а ўвышыні на дне.*

*Нібы ўзапраўду я адна страчаю*
*Прарочы міг жыцця — і міг той знік...*
*Начное рэха гулкае качае*
*Маё маўчанне і маўчанне — крык.*

*Мой крык, мой плач па тым, хто навучыў бы,*
*Як не ўпусціць ні шанец той, ні міг.*
*І быў жа выбар! Быў у ночы выбар! —*
*А не кранула споміна ў маіх.*

* * *

*Такі скразняк — хістае храм начы,*
*І ў гуле тоне душаў шматгалоссе,*
*І дзе чый плач, і за каго хто просіць,*
*Не ўчуць і, значыць, не дапамагчы.*

*А я кружу ў ім, не рукой — душой*
*Кранаючыся самае пакуты,*
*Бясцелай, у бясцелы змрок закутай*
*І міг таму назад яшчэ чужой.*



*Як спалучае ўсё, як родніць боль!*
*Жывая сярод мёртвых, я малюся*
*За іх, за ўсіх, хто пахаваны ў скрусе,*
*Не помнячы, што плачу над сабой.*

*Што плачу... Быў жа, быў ён, добры знак —*
*Знак Арыёна над бяссонным лёсам!*
*Пагляд хіснуўся — і паўнеба зносіць,*
*Адносіць у мінулае скразняк.*

*Кідацца следам? Біцца ў далячынь?*
*Жывая сярод мёртвых, я — ў палоне*
*Іх галасоў, іх вечнага бяссоння,*
*Пакуль стаіць ён, гэты храм начы.*

* * *

*Ноч. Той міг, калі зямная шыр,*
*Камянеючы, на плечы душыць,*
*Калі зоркі, як чыесьці душы,*
*Ціха плачуць у маёй душы.*

*І ніводзін кліч, ніводзін гук*
*Праз журботны плач іх не прарвецца.*
*Пуста ў садзе. Пуста ў цэлым свеце.*
*Адзінота горнецца да рук.*

*Хоць нічым ужо адна адной*
*Мы даўно дапамагчы не ўмеем,*
*Зноў, абняўшыся, пакуль заднее,*
*Прасядзім у ночы пад сцяной.*





* * *

*Я адганяю птушку ад пляча —*
*Яна вяртаецца, і крык падоўгу*
*Між мной і небам, як між мной і богам,*
*Выплёсквае, расплёсквае адчай.*

*Сляпы адчай... Адкуль ён, гэты страх?*
*Жыццё — па крузе, я за ім — па крузе,*
*На кожным кіламетры — моцны вузел,*
*Каб загадзя не абарваўся шлях.*



*І сіл стае, і ўпартасці стае*
*Ісці далей — якая ў тым пазыка?*
*Я заплаціла напярод музыкам*
*За свята, за праводзіны свае.*

*Дык хай іграюць весялей, грамчэй —*
*Не ўсё ж мне слухаць гэты крык ганебны!*
*Душа? Я азіраюся на неба —*
*І адганяю птушку ад плячэй.*

* * *

*Душа мая лёгка трапляе ў сіло*
*І б'ецца падградам камення падоўгу...*
*Святло ў ёй, крычаць, а навошта святло,*
*Калі на крыжы мы распнулі не бога?*

*Усмешка Джаконды, крычаць, а адкуль*
*Усмешка Джаконды ў паэткі з-пад Мінска,*
*Жыццё якой вынесла матка з-пад куль,*
*Труну для яго абярнуўшы ў калыску?*

*Навошта? Адкуль? Паспрабуй адкажы...*
*І вось ужо ўсмешка мая на паўтвара,*
*І я, нібы ўскрэсну пасля, на крыжы,*
*Ступаю насустрач убачанай мары.*



*Ступаю па крыках, па ўдарах цяжкіх,*
*Па стрэлах сяброўскае перасцярогі:*
*Ён мой, гэты міг, гэты ранішні міг —*
*Ён варты любое другой перамогі.*

*Натоўпу, які загароджвае шлях,*
*Відаць мая ўсмешка, а ўсмешку не сцерці!*
*Пасля... Ды няхай што заўгодна пасля,*
*А гэты вось міг памянуць і па смерці.*

* * *

*Гарачымі кляновымі лістамі*
*Засыпаны да самых вокнаў дзень,*
*І дзе той шлях, які б пайшоў за намі,*
*Не вызначыць ніводная з надзей.*

*У памяці ж — ні восені, ні клёнаў,*
*Ні чырвані, гарачай як кранущь:*
*Парыпваў снег, над ім сцюдзёна-цёмна*
*Пагойдвалася неба каламуць.*

*І ў той цяжкой, глыбокай каламуці*
*Танулі зоркі і ўначы і днём:*
*Дагэтуль звон іх, плач жалобны чуцен...*
*А тут — усё палае за акном!*

*Палае, палымнее, абгарае —*
*Адно паглядам неўзнарок крані.*
*Ці то душа, збалеўшыся, ўмірае,*
*Ці то каханне... Што мне бараніць?*

* * *

*Як спяшаецца восень! Сляпая ў журбе,*
*Не заўважыла нават, каму я гукала,*
*І цяпер не давесці ні ёй, ні сабе,*
*Што зарана прыйшла: не яе я чакала.*

*Не яе, не імжу яе ў шэрані дня,*
*Не іржу яе штучна-разной пазалоты...*
*Раптам стала прыгнечваць, душыць цішыня,*
*Раптам стала адштурхваць, адпрэчваць работа.*

*І такая туга ў пацяжэлай крыві,*
*Што, здаецца, скрані, скалыхні яе згадкай —*
*Тут жа ўстынуць у згадку, увысь жураві,*
*Тут жа плач іх дрыготкі абернецца кладкай.*

*Не знайсці ў гэтай кладкі бакоў ці краёў —*
*Два прадонні злучыўшы, за небам памкнецца...*
*Я ўжо бачу іх, гэтых сівых жураvoў,*
*Чую ўзмахі іх крылаў, гатовых замерці.*

*Колькі крокаў — і восень, сляпая ў журбе,*
*Не адпусціць, ужо не адпусціць на волю*
*Ні пагляд мой, ні кліч мой, ні боль па табе...*
*Каб любоў абярнулася гэтакім болем!*

*Разумею: зарана прыйшлі халады*
*І не сэрца, а восень ва ўсім вінавата,*
*Але як жа запэўніць сябе — і гады! —*
*Што чаканне — не здрада,*
*а страта — не страта?*

* * *

*Пагляд, і дасягнуўшы небакраю,*
*Трымцення стромых сосен не суняў:*
*Ўніз, па камлях іх залатых, сцякае*
*Жывая, трапяткая цішыня.*

*Не цішынёй, іх веліччу кранута,*
*Міжволі ўслухваюся ў пошум крыл,*
*Такі халодны і такі магутны,*
*Што, пэўна, там, над вершаллем, вятры.*



*Не птушкі, а вятры. Вятры сусвету,*
*Набраклыя стагоддзямі святла...*
*І мне, смяротнай, помніць, ведаць гэта*
*Важней, чым помніць цеплыню жытла.*

*Чаму, навошта, я не растлумачу.*
*Зрэдчас, аціхшы прад душой слабой,*
*Вось так, на сцежцы, выбранай наўдачу,*
*Раптоўна чую крылы над сабой.*

*Ужо ж ёсць повязь, даўняя, старая,*
*Між намі — і ў адступніцтве маім...*
*Пагляд, ледзь дасягнуўшы небакраю,*
*Адступіцца, а небакрай — у ім!*

* * *

*Не ўратую душу. Ні на міг*
*Не пасмею адчуць перавагу.*
*Жорсткі час... Яго горкая брага*
*Замяшана на муках маіх.*

*І маіх... Паспрабуй іх адпрэч!*
*Можна сцежку надточваць няспынна.*
*А свабода? Давер? Успаміны?*
*Іх аднойчы не кінеш у печ.*

*Што з таго, што збаліцца душа,*
*Што аднойчы падступяцца зімы,*
*Што загіну? Ёсць шлях. Ён, адзіны,*
*За мяне, і за ўсіх, вырашаў.*

*лячуся халодным*
*зімовым*
*святлом...*





* * *

*Лячуся халодным зімовым святлом,*
*Гадзінамі п'ю яго водар марозны,*
*Гадзінамі моўчкі дзіўлюся на сосны,*
*Скаваныя белым загадкавым сном.*

*Ні ўсплёскамі вейкаў, ні ўзмахам рукі*
*Не рушу здзіўленне сваё трапяткое*
*І, пэўна, зайздрошчу іх сну, іх спакою*
*Прад холадам гэтым, прад небам цяжкім.*

*Мне гэтак не здолець. Злячуся і я*
*Ад страшных, ад страшна балючых апёкаў.*
*І ўсё-такі на папялішча здалёку*
*Не раз азірнецца дарога мая.*

*Надлом — гэта проста і толькі надлом,*
*Апёкі зацягнуцца — полымя ўмерла...*
*Згарэць бы ў ім! Я ж, паслухмяна праз меру,*
*Лячуся халодным зімовым святлом.*





* * *

*Смяюцца зоркі... Інеем іх смех*
*На крылы соснаў намярзае, ў звоне,*
*У ззянні тоне... Знаю: гэта снег,*
*Што за табой пайшоў, вярнуўся ў сон мой.*

*Вярнуўся, каб у лёсе не ад слёз,*
*А ад яго, ад снегу, пасвятлела.*
*Бывае: чорным выпадае лёс,*
*А снег — ён белы, ён іскрыста-белы!*

*Кранi рукой — вызвоньвае, пяе,*
*Кранi паглядам — крышыцца, іскрыцца...*
*Мне сніцца снег, на ім — сляды твае,*
*Мне зноў — каторы раз ужо! — не спіцца.*

* * *

*Ні шляху, ні сцежкі,*
*Ні зоркі за мною,*
*Высокім застрэшкам —*
*Маўчанне зямное.*

*Чакаць невыносна:*
*Я чую, здаецца,*
*Як вершаллем сосны*
*Ўрастаюць у вецер.*



*Як вецер калыша,*
*Кружляе іх цені,*
*І свеціцца ціша*
*Ў кружэнні, ў мігценні.*

*Святло па крышынцы*
*Цярушыцца зверху —*
*Няспынна вяршыцца*
*Цуд белага снегу.*

*І цягнуцца рукі*
*Да снегу, да ззяння.*
*Снег першай разлукі,*
*Снег вечных расстанняў...*

* * *

*Іду за поўняй, ці яна за мною*
*Пад вокнамі тугі маёй зямное,*
*І не падняць, не адарваць пагляд*
*Ад іх пустых вачніц, ад іх правалаў*
*У бездань ночы, ў цёмны гул вакзала,*
*Задушлівы і ліпкі, быццам чад.*

*Марозны чад! — ён перасядзе ў горле*
*І, пракаўтнуты, адзавецца болем*
*На кожны крок, на кожны кволы ўздых.*
*Я знаю. Я хачу ім апячыся*
*І, страціўшы, не страціць гэтай высі*
*Для спомінаў, адчайна-маладых.*

*Марозны чад... Няхай, няхай, смяротны!*
*І так і гэтак — шлях мой незваротны,*
*Дык што баяцца за сябе й яго?*
*Іду за поўняй, ці яна за мною,*
*Пад вокнамі тугі сваёй зямное,*
*З яе, з тугі, выносячы агонь.*

* * *

*Навесмы голля за акном,*
*Прыстылым да пагляду,*
*Адпрэчваюць пагляд, і дом,*
*І белы прывід саду.*

*Не сад, а лес вакол даўно,*
*Дрымучы, спаконвечны,*
*Куп'ём каменных валуноў*
*Зарос як не па плечы.*



*І што гукаць абсяг, ці шлях,*
*Ці памяць, як ні гукам*
*Не абзываецца абсяг*
*На стомленую муку?*

*Ну, што гукаць, як нават дом*
*Прызнаў уладу ночы?*
*А я гукаю і крадком*
*Тру, тру сляпыя вочы.*

*Ён быў тут, сад. Зімовы сад.*
*І поўня над шпакоўняй...*
*Мо год назад, мо век назад —*
*Усё адно! Я помню!*

* * *

*Шэры, даўкі ад горкіх слоў,*
*Сон бяссонне маё не здужаў:*
*Дзень, усплёск яго купалоў*
*Нада мной, адбяліла сцюжа.*

*І ў паглядзе — ў яго на дне,*
*Дзесьці ў цемры на самым донцы,*
*Дзе мой смутак закамянеў,*
*Зварухнуўся ўспамін пра сонца.*

*Гэта толькі ўспамін, не больш —*
*Цьмяны, кволы зусім адбітак,*
*А не сонца, і ўсё ж — і ўсё ж! —*
*Горыч знікла, і боль забыты.*

*Зноўку верыцца ў сілу дня,*
*Ў чысціню яго небасхілу.*
*Міг — і выбухне цішыня*
*Ветрам, пошумам белых крылаў.*





* * *

*Рачулка, закаваная ў ільды,*
*У берагах з'інела-сонных вербаў,*
*Не чуе, як высільваецца неба*
*У пошуку жывой яе вады.*

*Не чуе. Мроіць пра далёкі дзень,*
*Які яе разбудзіць, даўшы сілу*
*Адкінуць ковы, і няхай бяскрыла,*
*Няхай не з чарадой сваіх надзей,*
*Але падняцца, вырваць з берагоў*
*Сваю тугу і затапіць паўсвету —*
*Свет! — калі хопіць сілы і імпэту*
*І не ўмяшаецца ніхто з багоў.*



*Хоць што багі! Ім клопату стае.*
*Ніхто ёй не падкажа, што не гордасць,*
*А хваль яе чысцюткіх прахалоднасць —*
*Найбольшы скарб, адвечны скарб яе.*
*І зноў — адно паўкроку да бяды,*
*І я цяпло, вясну не падпускаю:*
*Здаецца, не рака, а я чакаю*
*Той дзень, той міг, што разаб'е ільды.*

* * *

*У голасе тваім тугі не ўчуць —*
*I повязь, ледзь узнікшы, прападае,*
*I вёрсты паміж намі не гадамі —*
*Бясконцымі стагоддзямі ўстаюць.*

*Стагоддзямі... Ну, што ім гэты боль!*
*Штó сум мой, і не вечны і не новы!*
*Дыхнуць гарачым пахам палыновым,*
*Узвеюць пыл і лісце над сабой.*

*I знікнуць. I салгуць календары,*
*Што тое, што было, што перабыта,*
*Не вернецца ніколі і забыта:*
*Чым менш мы просім — тым шчадрэй дары.*

*I я глытаю горыч гэтых дзён,*
*Глытаю пыл і не прашу нічога:*
*Абы была, абы вяла дарога*
*Насустрач голасу твайму, жыццё!*

* * *

*Не адалела долі жаночай,*
*Не размінуся з доляй зямной:*
*З ночы — бяссоння воўчыя вочы*
*Зноў неадступна сочаць за мной.*

*Толькі цяжкія вейкі замружу —*
*І нарастае, душыць выццё:*
*Чорнае неба зматваюць сцюжы —*
*Выюць мільёны іх верацён.*



*Зоркі і згадкі — упераменшку,*
*Доўгі, кароткі век, а ссукаць!*
*Воўчыя гукі, воўчыя сцежкі —*
*Воўчага ж следу не адшукаць.*

*Што ж я шукаю след гэты белы?*
*Што ж я гукаю, каб накарміць*
*Звера начнога сэрцам збалелым?*
*Кроў ва ўспамінах перакіпіць.*

*Перакіпіць — і перахварэю*
*Гэтым бяссоннем, зоркамі ў ім...*
*Доўгі, кароткі шлях, а сагрэе,*
*Перш чым навекі звесці з былым.*

* * *

*Тваё рабіны голлем заінелым*
*Умерзлі ў нерухомы мой пагляд,*
*Наўскос, слязой, спаўзае далягляд*
*У стынь, у морак студзяніста-белы.*

*Ні ўсплёску цемры, чарнаты вакол,*
*А стынь усё згушчаецца, гусцее,*
*І не ў паглядзе, не ва мне — у целе,*
*Чужым мне зараз, бы яно — мой дол.*

*Прызнай я гэта, нагадай я гэта*
*Хоць дрогкім рухам вуснаў ці брыва,—*
*І пойдзе ў рост гаручая трава*
*Праз снег, з-пад снегу, пад уздыхі ветру.*

* * *

*Тужліва*
*пагойдвае ноч*
*Пустыя*
*гняздоўі надзеі,*
*І што зараз ні напрароч,*
*Паверыць ужо не пасмею.*

*Які ні суровы мой лёс,*
*А з сэрца не стаў бы смяяцца,*
*А ты...*
*Ты свой ключык прынёс*
*І лёгка замкнуў мяне ў згадцы.*



*Быламу ўсё роўна, маўляў,*
*А з будучым нельга лічыцца...*
*Зямля?*
*Ну, якая зямля*
*У адданае поўні ваўчыцы?*

*На снезе застыне святло,*
*Святлом гэтым звыецца поўнач,*
*І згадку,*
*што стала жытлом,*
*Бяссонная ціша напоўніць.*

*І ні шкадаванняў,*
*ні слоў,*
*Якія б назвалі прычыну...*
*Любоў?*
*Ну, якая любоў*
*Ў адданае песні жанчыны?*

*І дні*

*ці стагоддзі паўзбоч —*

*Ад іх толькі холадам вее:*

*Тужліва пагойдвае ноч*

*Пустыя гняздоўі надзеі.*



* * *

*Паляны сонца. Цішыні і сонца.*
*Гадзіны, перарослыя ў прасцяг,*
*Усёй працягласцю сваёй бясконцай*
*Нанізаны на апусцелы шлях.*

*Спыняецца, спыніўся час, няйначай,*
*І цішыня здаецца незямной.*
*Услухаюся ж: хтосьці ціха плача —*
*Мо хтосьці з тых, што ўжо забыты мной.*

*Гукну — і вымярзае кліч да донца,*
*Ступлю — і шлях не зрушваецца ўслед...*
*Паляны сонца. Цішыні і сонца.*
*Каму ён, чый ён, хворы сонцам свет?*

* * *

*Пейзаж зімы ў цяжкой аконнай раме:*
*Аблокі — кожны, як высокі воз*
*На бальшаку, што ўмерзне ў рып бяроз,*
*Пахіленых гадамі ці вятрамі.*

*Яны ўжо сшэрхлі, гэтыя вятры,—*
*Калі не месяц, то мароз уважыў:*
*Ні золата, ні сіні — снег і сажа,*
*Скрозь снег і сажа — паспрабуй сатры!*

*Спрабую сцерці — лезе чарната,*
*І ёю, чарнатой, размыта казка,*
*І з-за свінцова-матавага бляску*
*Відаць паверхня бруднага ліста.*

*Засмучаная, рву яго з надзеяй*
*Пачаць наноў — і з шэрані ў акне*
*Бярозы узіраюцца ў мяне,*
*Шкадуючы, за што, не разумею.*

* * *

*Змаўкаю перад роспаччу душы,*
*Прылашчанай, аглухлае ад ласкі,*
*Ад дабраты наіўна-мудрай казкі*
*Пра тых, хто царства беднасцю нажыў.*

*О гэта царства казачных шчадрот! —*
*Вякі, тысячагоддзі каля брамы...*
*І дзе ўжо з простаю жыццёвай драмай*
*Праціснуцца, пралезці напярод?*

*Плацілі і не гэткаю цаной,*
*Тужылі і не гэткаю тугою,*
*А ўсё вакол ішло сваёй чаргою,*
*Што за сцяною, што перад сцяной.*

*Бо не было двух светаў, быў адзін,*
*То казачны, то будні і звычайны.*
*Няйначай, каб спакойна спаць начамі,*
*Сам усявышні іх разгарадзіў.*

*А я чакаю — так, як да мяне*
*Чакалі ўсе, хто над каханнем плакаў,—*
*Калі не цуду, то намёку, знаку,*
*Што ён магчымы, цуд, як і раней.*



* * *

*Смуга нагнала варання*
*На вершалле бярэзін —*
*І стала цёмна ў схроне дня:*
*Ні водбліску на снезе.*

*Глыбокі снег сцямнеў, размяк,*
*Пакрыўся пульхірамі,*
*І чорны цень крыла — як знак,*
*Што час адлегласць спраміў.*

*Дзень, ледзь заняўшыся, сшарэў*
*І вараннём абжыты,*
*І што яму, што ў ім згарэў,*
*Сатлеў мой шлях з нябыту!*

*Глыток жыцця — і зноў вакол*
*Сцяна цяжкога змроку:*
*Чужы мне свет, чужы мне дол*
*І водсвет дзён далёкіх...*

* * *

*Ні спомінаў няма ў душы, ні мар...*
*І што блукаць між сувязяў прычынных:*
*Званіцу дня абселі аблачыны —*
*Які ўжо з ветру соннага званар!*

*Пацягнецца, галінкай шкрабане*
*Якую з аблачын — і пазяхае,*
*І зноў, ледзь у адказ яму ўздыхае*
*Глухі абсяг, здаволена засне.*

*І паспрабуй крануць яго, збудзіць,*
*Адно спакойна, вяла адмахнецца:*
*Якія мары! — ён жа толькі вецер,*
*Якія згадкі! — ён жа зараз спіць.*

*Ён спіць. І звон маўчыць. І я гляджу*
*У гэтае маўчанне, бы ў прадонне,*
*Што сонца ўжо не помніць і не ўспомніць,*
*Я на сваім чаканні варажу.*

*Асмеліцца б самой за званара*
*Рукой, плячом, усім дрыготкім целам —*
*Памкненнем зрушыць небакрай здранцвелы,*
*Загінуць — але зрушыць небакрай!*

*Прачнецца звон — і згадка верне шлях,*
*Які дагоніць маладое лета,*
*Узыдзе сонца — і крыламі ветра*
*Абдыме мара сонечны абсяг!*

*Ні спомінаў, ні мар...*

* * *

*Я выгнала з дому былое.*
*Абрыдла: як куцы шчанюк,*
*Вылізвае цені за мною,*
*Гасцей правярае на нюх.*

*Здараецца, і не падпусціць.*
*А слова папроку ўшчамлю —*
*Ужо вінавата ў распусце...*
*Абрыдла! Нашто мне шчанюк?*

*Дарма пад дзвярыма скуголіць.*
*Не выйду. Назад не гукну.*
*Ці ж гэта — здабытая воля:*
*Святла не прырэжаш акну?*

*Не, стану нарэшце шчаслівай,*
*Спакойнай за новы свой крок.*
*Хай вецер, хай жудасны лівень,*
*Хай сцюжа — урок ёсць урок!*

*Памерзне — праявіць пакору:*
*Было і было, і няма!*
*Няма чаго згадваць, што ўчора*
*Бяздомнай была я сама.*

*Скуголіць? Змарыўся, нябога...*
*Занадта высокі парог...*
*Ступіла, гукаю — нікога:*
*Камусьці з нас д'ябал памог.*

* * *

*Мінуліся святы. Спусцелі алеі.*
*А ўсюды святочныя ёлкі гараць,*
*І тленам, жудой ад убрання іх вее:*
*Як свечкі быломУ... Іх нельга прыбраць.*

*Іх нельга задзьмуць. Гэта ўжо як вядзецца:*
*Самім дагарацЬ ім, самім дагарэць.*
*Не сёння, дык заўтра. Не скрозь, дык у сэрцы,*
*Што чуе, як ходзіць за мной мая смерць.*

*Сцярожка ступае: слядку не парушыць,*

*Уздых не аброніць, пляча не кране —*
*Цярушыць сняжок, быццам неба цярушыць,*
*Асыплецца неба — і час мой міне.*

*Я знаю. І гэта мяне не пужае.*
*Набыта і страчана ўсё пачуццём,*
*А зараз я спомінам нават чужая...*
*Мінуліся святы. Мінае жыццё.*

* * *

*Хіба разгледзець мне, хіба знайсці*
*Самой душы няведамыя межы?*
*Пагляд завяблен небам у лісці,*
*А след губляецца ў сумётах снежных.*

*І скрозь вось гэтак — сярод зім і лет,*
*У крузе, што сціскаецца, вузее...*
*І ведаю: ён мой часова, свет,*
*А ўсё ж, пакуль ён мой, са мной надзея.*

*Надзея ўсё зрабіць, сказаць, паспець —*
*Калі не ўсё, то ўсё, што смерцю сцверджу,*
*Бо ёсць жа тое, што не возьме смерць,—*
*Павінна быць, інакш нашто бязмежжа.*

*Інакш нашто чароды новых год*
*Гукае з цемры змучанае слова...*
*Жыву, каб доўжыць і прадоўжыць род,*
*Памру, каб дух — душу! — пазбавіць коваў.*

* * *

*Світанак... Трывога нябёс,*
*Зацягнутых хмарамі. Вецер.*
*Пах мора, што вецер прынёс*
*З былога. Пах мокрага веццяя.*

*Таропкія ўсплёскі хвілін,*
*Іх водсветы ў словах і вокнах.*
*У кожным акне — жураўлі,*
*Іх клін, нерухома-журботны.*

*І колькі я іх ні ганю*
*Паглядамі, ўзмахамі, крыкам,—*
*Нібыта ўраслі ў цішыню,*
*У хмары. І гэта нязвыкла.*

*Спяшалася ж восень. Сама*
*Усіх іх сагнала з гняздоўяў!*
*Сагнала... А шляху — няма*
*Ні ў будучыню, ні ў былое.*

* * *

*Цень перабытай ночы, змрочны цень*
*Няўклюдна засціць не акно, а дзень,*
*І дзень бяссіла, у адно крыло,*
*Спрабуе ў цемру падмяшаць святло,*
*Святло ўспаміну ці святло надзей...*

*Ён так і не прачнецца, гэты дзень!*

*Запаленая свечка дагарыць,*
*Пагаслая надзея адбаліць,*
*А ў цёмнай шыбе мёртвага акна —*
*Цямрэча, у якой не бачна дна,*
*Не скалыхнецца, паглыне мой цень...*

*Ён так і не наступіць, гэты дзень!*

* * *

*Не поруч, а побач ідзём,*
*Сцярожка адводзячы сцежкі.*
*І кожны цяпла не жадзён,*
*Сагрэты сваёю усмешкай.*
*І кожны марудзіць знайсці*
*У іншым сваё нецярпенне.*
*Спакойна цвітуць у лісці,*
*Над намі, і промні і цені.*

*Спакойна хвіліны цякуць,*
*Паўз нас, у сваю несмяротнасць.*
*І не перайсці іх раку,*
*І не зразумець незваротнасць*
*Свайго любавання лісцём,*
*Ракою, гульнёю аблокаў...*
*Мы, кожны, у лёс свой ідзём,*
*У вечара навідавоку.*

* * *

*Твой партрэт... А хто ты? Сябра? Госць?*
*Гаспадар пазалачонай рамы?*
*Ўласнік, што, ўлюбёны ў маладосць,*
*Пачуццё развешвае на грамы?*

*За любоў — усмешка і партрэт,*
*За адданасць — лыжачка даверу,*
*За адчай — святлом размыты след,*
*Што вядзе на абламаны бераг.*



*Ёсць хусцінка на чужы раток,*
*Ёсць — ад непатрэбы — таямніца...*
*Твой партрэт... Павернуты ў куток,*
*Ён спрабуе ў сне маім прыжыцца.*

*Ён мне сніцца! Ў рост майго акна.*
*Ў раме, пазалочанай заходам.*
*Безыменны хтосьці з палатна*
*Сцёр імя — з маёй маўклівай згоды.*

* * *

*Вецер патрэбен. Не мне.*
*Хмары цяжкой нада мною.*
*Небу... Няхай сутыкне*
*Хмару з цяжкою зямлёю!*

*Так выкрасалі агонь*
*Колісь багі для любошчаў:*
*Вырвецца вогненны конь,*
*Рэхам раскоціцца пошчак,*

*І цішыню — да травы! —*
*Срэбная коўдра завесіць.*
*Студзячы потым ставы,*
*Доўга ўсміхаецца месяц...*

*Вецер патрэбен! Цяпер.*
*Ну, як агонь задыхнецца?*
*Мне ж не разбіць недавер*
*Вечара, ветру і сэрца...*

* * *

*Заблудзілася ў сцюжы, ў завеі*  
*Дзён, шчаслівых і сцюжай сваёй,*  
*І малочна-густой цішынёй,*  
*Што ад промня святла ружавее.*

*І не страшна цяпер прыгадаць*  
*І пагаслае неба і песню,*  
*Што тужыла аб вечным і веснім,*  
*Каб разлуку тугой апраўдаць.*

*Апраўдала, шляхі развяла,*  
*Ні мастка не пакінуўшы ззаду,*  
*І гучыць, і жыве — і няпраўда,*  
*Што паменела ў свеце святла!*

*Так і я не іначай як песня:*  
*Памірала, памерла і зноў*  
*Гэтай вечнаю музыкай слоў*  
*Для жыцця, для пакуты ўваскрэсла.*

*Так і я...*



* * *

*Калі б адна я так пакутна*
*Любіла, верыла, жыла,*
*Адна б і горыч слоў атрутных,*
*Губ не адняўшы, дапіла.*

*Ні кроплі б не дала праліцца —*
*Усё, усё ў сваю душу,*
*Хай нават там, у ёй, крыніцу*
*Святла жывога патушу.*

*Тушыла ж... І штораз, ледзь чутна*
*Азваўшыся на боль чужы,*
*Мацнейшы, яшчэ больш пакутны,*
*Ўсё ж выракалася мяжы.*

*Мяжа жыцця, пакуты, болю —*
*Хто знае гэтую мяжу!*
*Не смеючы прасіць паталі,*
*Між слоў, між горкіх слоў кружу...*

# не ўчуўшы горычы падману...



* * *

*Не ўчуўшы горычы падману,*
*Гукаю не чаўнок — раку,*
*Што быццам з небыцця, з туману*
*Бяжыць насустрач чаўнаку.*

*Насустрач — у бязмежжа ночы,*
*Дзе ні агню на ўвесь прасцяг.*
*Ужо ж сляпы разлік жаночы:*
*Як ёсць прасцяг, то ёсць і шлях!*

*І што гадаць, куды ён мкнецца,—*
*Туды, куды адхон вядзе:*
*Пасвеціць як не зорка — сэрца,*
*Сустрэне як не сонца — дзень.*

*І будзь той дзень апошнім з краю,*
*Імкнуўся б гэты шлях за край.*
*Дык што гадаць: жыццё згарае*
*Ці выгарае небакрай!*

*Абы жыла рака і човен*
*Не стаў труной маёй раней,*
*Чым птушкаю застыне ў слове,*
*Якому пераржыць мяне.*

* * *

*Дзве вясёлкі, ад краю да краю нябёс,*
*Карануюць бязмежжа, і шлях у бязмежжа,*
*Дзесьці там, пасярод яго —*
*горад, што ўзнёс*
*Над шаломамі храмаў спічастыя вежы.*
*Вежы даўняй, заўсёднае веры сваёй*
*У далёкі — у заўтрашні! — сонечны ранак,*
*Які полымна будзе лунаць над зямлёй,*
*Ёю, гэтай пакутнай зямлёй, прычаканы.*
*Прычаканы?*
*Пытанне пужае адказ —*
*Рэха крокаў вяртае прасцяг з-пад аблокаў...*
*Колькі год (ці стагоддзяў?) наперадзе ў нас,*
*Не адкажа, напэўна, ніводзін з прарокаў.*

* * *

*Прарочым пагібель, а слухаем оды*
*Жыццю і любові сваёй да яго,*
*Любові сляпой і нярэдка бясплоднай:*
*Абы дагукацца да шчасця свайго!*

*Да шчасця...*
*А шчасце здрабнела, драбнее:*
*То свет быў малы, то — замок пра запас...*
*І вось ужо ўласніцкі дух сатанее*
*І душы, як семкі, вылушчвае з нас.*



*На звалках, на сметніках, разам з ламаччам,*
*І душам, тым душам адцятым, сатлець —*
*Ні сёння, ні потым ніхто не аплача*
*Іх смерці,*
*бо гэта ганебная смерць.*

*Над дзіцем, над родам, над людствам пагроза,*
*А мы пра пірог, пра пірог, пра пірог!*
*Не сошкай, а лыжкай, не ношкай, а возам —*
*Авось падкароцім якую з дарог.*

*Авось! І як скрозь — на «авось» не выходзіць.*
*І зноў не дарогу ўразаем, а час,*
*Адпушчаны пошуку,*
*росту — прыродзе,*
*Якая ўскладала спадзеўку на нас.*

*Ужо ж прычакалі, што ядзернай месай*
*Жыццё, ўсё жывое адчай адпяе!*
*Прарочым пагібель — слугуем прагрэсу,*
*Які ўсё вярней набліжае яе.*

*Атручаны рэкі, азёры, крыніцы,*
*Зямля калыхае гняздоўі ракет,*
*Хто, што нас прымусіць аднойчы спыніцца*
*У страху за свет, за адзіны наш свет?!*



* * *

*Арэлі лёсу... Зімнія арэлі!*
*З чародкай яркагрудых снегіроў*
*Праз снегавей, над белым сном бароў,*
*Вышэй, вышэй яны штораз ляцелі.*

*Вяртанне іх нагадвала разбег,*
*Палёт быў захапляюча-бясконцы:*
*Перш чым у ноч закочвалася сонца,*
*Яно ўмярзала ў каляровы снег.*

*І гэты снег кружыўся і не падаў,*
*І гэты снег салодкім быў на смак!*
*Быў... Сказана нібыта і няўзнак,*
*А ў гэтым «быў» — бязрадасная праўда.*



*Арэлі не спыніліся яшчэ,*
*Але снягір — адзін з усёй чародкі,*
*Але палёт іх гэтакі кароткі,*
*Што сонца, не выходзіць з-за плячэй.*

*Снег горкне (і гаркота тая ў сэрцы!),*
*Снег засыпае сцежкі і гады,*
*Снег гасне — і ўжо хтосьці з маладых*
*Спыніць, заняць мае арэлі мкнецца.*

*Арэлі лёсу...*

* * *

*Думала: свет адагрэю...*
*Марна. І я, як усе,*
*Разам са светам старэю,*
*Звыкшыся з тым пакрысе.*

*Хутка дарогу заснежыць.*
*Хутка. Спяшай не спяшай —*
*Не прадзярэцца праз межы*
*Ўпартага часу душа.*

*Межы, і межы, і межы!*
*Ўсё, што магла і магу,—*
*Рэшткаю слоў незалежных*
*Гнаць ад парога тугу.*

* * *

*Хто і за што прыгаварыў*
*Мяне, нявольніцу, да волі?*
*Ледзь вырвуся ад сцен старых,*
*Ледзь выракуся горкай долі,*
*Ужо спяшаецца яна*
*Абнесці раніцу сцяною.*
*І тая, новая, сцяна,*
*Вышэючы, ідзе за мною.*

*Сцяна... О, колькі іх было,*
*Высокіх, непадступна-грозных,—*
*Упару палюбіць палон*
*Або зайсціся ў мольбах слёзных.*
*Дык не! Зноў буду біцца ў цвердзь,*
*І разбівацца ў кроў, і падаць,*
*І верыць: перш чым прыйдзе смерць,*
*Мне, вольнай, усміхнецца радасць.*

*Мне, вольнай... Гэткая цана*
*Бясконца жорсткага змагання!*
*Напэўна ж, упадзе сцяна,*
*І стане пылам пад нагамі,*
*І прыцярушыць след крыві,*
*Як і мінулы раз, старанна.*
*Адно шкада: не аднавіць*
*Гадоў, растрачаных зарана.*

* * *

*На сцежцы як насыпана сініц,*
*Зляцеліся з усіх лясоў няйначай.*
*На блізкі холад гэта. Ці на ўдачу,*
*Вядомую наперад да драбніц.*

*Хутчэй на холад. Дні бягуць з гары,*
*Ніводзін на сябе не азірнецца:*
*Мо гоніць вецер, мо яны — той вецер,*
*А ветру не ілгуць календары.*

*З гары, з гары! Ужо не дні — гады*
*Бягуць у засень цішыні прагорклай.*
*І што ўжо тут выглядваць сваю зорку*
*І шкадаваць, што век немалады!*

*Ні неба — хоць на міг! — не падсініць,*
*Ні мару не раскрыліць... Гэта — восень.*
*Гэта на холад (мне не падалося!) —*
*На сцежцы як насыпана сініц.*

* * *

*Сноў бясклапотную конніцу*
*Зноў не вярнулі сляды...*
*Поўнач пільнуе бяссонніцу,*
*Косячы вокам рудым.*

*Не адагнаць нараканнямі,*
*Не захінуцца ў спакой —*
*Ані грудочка, ні каменя*
*Проста няма пад рукой.*



*Выбіла б вока цікаўнае!*
*Што там шукаць у былым?*
*Горыч? Любоў неспатканую?*
*Два паламаных крылы?*

*Што там шукаць? І да раніцы*
*Не паразвязваць вузлоў —*
*Толькі абедзвюм параніцца*
*Вострымі сколкамі слоў...*

* * *

*Святочнасць будняў...*
*Стрэч бяссонны след...*
*Трывожнае няведанне працягу...*
*Між намі — чыйсьці лёс і цэлы свет.*
*Мы нават не спрабуем зрушыць вагі.*
*Так і жывём па розныя бакі*
*Адных і тых жа дзён, навідавоку.*
*Пагляды б'юцца, быццам матылькі,*
*Аб шкло блакіту, аб чужыя вокны,*
*Аб воклічы, адзін аб аднаго,*
*Бы можна зрушыць гэты свет між намі,*
*Дзе ўсе кідаюцца гасіць агонь*
*І цвёрда знаюць, што няма кахання.*
*Мы — як усе. Мы знаем, што і ўсе.*
*Няма кахання! Што зважаць на сэрца?*
*Пагляды launch пераtruцца пакрысе,*
*Дарэмна кожны ў шкло блакіту б'ецца...*



* * *

*О, як мне трэба знайсці малітву*
*І ўратаваць ёй сваю душу,*
*І ўратавацца! — тым, не забытым,*
*Што так балюча ў сабе нашу.*
*Усё мінула. Усё было ўжо.*
*Ці ж можна двойчы гарэць, згарэць?*
*Не слова, позірк неасцярожны —*
*І немагчымаю стане смерць:*
*Абразу, ганьбу жыццю дарую,*
*Прайду, усмешкай прыкрыўшы твар...*



*Не, не! Лепш голас свой замурую,*
*Задзьму свой позірк, нібы ліхтар.*
*Не, не! Лепш бездань паглыблю ў сэрца*
*На стогн — на кліч — на сваё «люблю!».*
*Парвецца повязь — няхай парвецца:*
*Адна, сама я той боль сцярплю.*

* * *

*Шчаслівых — судзяць. Не прашу,*
*Не папрашу паталі ў суддзяў:*
*Мой розум спапяліць душу,*
*Перш чым іх гнеў уп'ецца ў грудзі.*

*І каб жа гнеў! Не гнеў, а злосць*
*(Хто чуе грэх, той чуе ліха),*
*З якой, дазволь ім, маладосць*
*Па кроплі высмакчуць, па ўздыху.*

*Яны ж таму і чыняць суд,*
*Што не дазволіла ніколі*
*Нікому з іх апошліць цуд*
*Любові, выпешчанай воляй.*



*Яны ж таму й крычаць услед,*
*Што я на іх не азірнуся*
*І ў момант, калі страчу свет,*
*Бязмежна сонечны і ў скрусе.*

*Я страчу — свет! Свет, а не схоў.*
*Ён жыць, ён спеліць сонца будзе*
*Для новых сцежак, новых слоў...*
*Шчаслівых судзяць? Што ж, хай судзяць.*

* * *

*Ціхі вечар. Ціхі плач бяроз.*
*Ціхіх дум прагорклая пяшчота,*
*У якіх то светла, то журботна*
*Плёскаюцца ручаіны слёз.*

*Непралітых слёз... Ім не размыць*
*Вечар гэты, гэтае чаканне*
*Зор, іх таямнічага гукання:*
*Калі шчэ чакаеш — мусіш жыць.*

*Колькі ўжо было такіх хвілін,*
*Што жахліва зеўралі прадоннем,*
*А праравецца, выбліснe з сутоння*
*Зорны промень — і цяплей зямлі.*

*І цяплей бяссоннае душы*
*Ля сваёй халоднай адзіноты...*
*З ціхіх дум то светла, то журботна*
*Прарастаюць ціхія дажджы.*

* * *

*Выпусціла птушку. І акно*
*Зачыніла. І цвіком забіла.*
*Што было — мінулася даўно,*
*Досыць небам мечаных памылак.*

*Досыць спроб аслабаніць душу,*
*Навязаўшы на калок прастору.*
*Я ў жыцця і дня не папрашу,*
*Каб адпрэчыць і адкінуць гора.*

*Хто прыдумаў, што адно любоў*
*Ад усіх людскіх нягод ратуе?*
*Забірайце! Ўжо ніколі больш*
*І пяра яе не падыму я.*

*Колькі слоў салодкіх, колькі мар —*
*І прадонне, і няма вяртання...*
*Забіваю клетку — твар у твар*
*З той, што стане мною на світанні.*

## не вылечыць свету...



* * *

*Любоўю не вылечыць свету:*
*Стары ў нелюбові сваёй,*
*Ён юнымі губіць паэтаў,*
*Ён нішчыць усё, што апета*
*Іх хмельнай, як брага, крывёй.*

*Спрадвек, са стагоддзя ў стагоддзе,*
*Зняславіўшы, гоніць любоў...*
*І сёння шчэ трэба даводзіць,*
*Што кроў — і пралітая! — бродзіць*
*У кожным з прамоўленых слоў.*

* * *

*Прыходзіў дождж, каб змаляваць працяг,*
*З акна, з яго празрыстае старонкі:*
*Я чула плач апалага лісця*
*Пад крокамі, свае цяжкія крокі.*

*Паўз восень — крокі... Ўсё далей, далей!*
*Паўз памяць... Да адчаю незнаёма!*
*Хістаўся дом. Пабразгваў на стале*
*У спешцы мной забыты ключ ад дома.*



*Хістаўся здымак ночы на сцяне,*
*І там, на здымку, не было нікога,*
*Хто пагукаў бы — і вярнуў мяне,*
*Вярнуў маю аслеплую дарогу.*

*І я сама гукала ноч, і дом,*
*І мастака з яго алоўкам танным,*
*Што сцежкі новых, сонечных гадоў*
*Намаляваў — і змые да світання.*

*І я сама дарогу валакла*
*Назад, у яву, да свайго парогу,*
*Каб толькі абагнаць ручай святла,*
*Каб толькі абагнаць сваю трывогу.*

* * *

*Птах не шукае старога жытла,*
*Дрэва не помніць з'інелае клеткі —*
*Ранак зацвіў! На паляны святла*
*Выбеглі першыя сонныя кветкі.*

*Ім яшчэ ўтульна між промняў і траў.*
*Ім яшчэ лёгка да сонца падняцца,*
*Покуль з расою іх смех не сабраў*
*Вецер — ім можна над ветрам смяяцца.*

*Ранак зацвіў? Дык цвітуць жа — яны!*
*Сонца апаліць? Дык ёсць жа карэнне!*
*Лета — пазней! — не прызнае віны,*
*Скідаўшы стог і заснуўшы на сене...*

* * *

*Упала слязінка. З дна кветка ўсплыла.*
*У кветцы, фарбуючы ў чырвань пялёсткі,*
*Трымцела, нібы ўсё ляцела, страла —*
*Сляпы напамінак пра лёс і пра жорсткасць.*

*Мне б выхапіць, вырваць стралу і не даць,*
*Не даць ёй пусціць карані ў тым імгненні!*
*А я.... Я збаялася неба, відаць,*
*Яго аграмаднага чорнага ценю.*

*І ўпала. І крык аб зямлю апякла.*
*І боль адпіхнула ў цяжкой паняверцы:*
*Фарбуючы ў чырвань дасвецця, страла*
*Трымцела, нібы ўсё ляцела,— у сэрцы.*

* * *

*Каго ні стрэнеш у жыцці!*
*Чужая доля. Ўпарты*
*Матыў: «Руку пазалаці —*
*Усё раскажуць карты...»*

*А што — усё? Што, не стае*
*Якіхсьці цудаў простых?*
*Шкада старой. І слоў яе,*
*Размененых на вёрсты.*

*Шкада сябе. І слоў сваіх,*
*Зняверaных у цудзе.*
*І хто рассудзіць нас, дваіх,*
*Перад усім, што будзе?*

*Усім — дарога на вяку,*
*Любоў, а з ёю — страты...*
*Пазалаці, душа, руку —*
*Усё раскажуць карты!*

* * *

*Вусны і вусны... Як соты!*
*Вып'юць усмешку маю*
*І не адчуюць гаркоты,*
*Горычы, што аддаю.*

*Надта ж прывабным здаецца*
*Гэты адчай пачуцця —*
*Ўцёкі ад палкага сэрца*
*Ўзмежкам чужога жыцця.*

*Надта ж аслеплены воляй,*
*Радасцю вольнаю сны...*
*Што ім, што спазмамі ў горле —*
*Крык непазнанай віны?*

*Што ім, што крык той самотны*
*Выплачу дням маладым?*
*Вусны... І вусны... Як соты!*
*Вып'юць душу, і — куды?*

* * *

*Мая любоў... Той шлях, што я слязьмі,*
*Як валунамі, вымасціла ўпотай?*
*Пад колер ночы выцвілы язмін?*
*Прадонне вышыні, чужой палёту?*

*Палёт, што быў падзеннем? Кветкі сноў?*
*Сляпы, без аніводнай зоркі, бераг?*
*Я не магу парваць цянёты слоў,*
*Што нас даўно сквалі, і не веру.*

*Не веру ў сілу іх, у права іх*
*Трымаць нас на адлегласці ўспаміну!*
*Мая любоў... Яна б у нейкі міг*
*Спаліць, усё датла спаліць павінна...*

*Каб стала ясна, хто яго ўладар,*
*Чыя сцяжына першай абарвецца —*
*Яна ж чапляецца за кожны ўдар*
*Твайго, ужо даўно чужога сэрца.*

* * *

*Цішыня. Бяссонне зор. Акно,*
*Не зашклёнае ніводнай згадкай.*
*На сцяжыне, ўздоўж, цяжкія кадкі*
*З чорным, быццам дзёгаць, малаком.*
*Выкупайся ў кожнай з іх — і ноч*
*Стане паслухмянаю рабою:*
*Пажадай — згаворыцца з любоўю,*
*Пажадай — прагоніць яе з воч.*
*Падалом, нібы цяжкім крылом,*
*Сцёршы не імя, самую памяць...*
*Першы крок... Другі... Балюча раніць*
*Голыя ступні мае святло.*
*Але ж я імкнуся ў чарнату,*
*Каб над ёю — над сабой! — схіліцца,*
*І не думкі, вёрткія начніцы*
*Б'юцца аб пагляд мой на ляту.*
*Крок... Яшчэ... Я чую ціхі ўсплёск,*
*Бачу твар, падобны на русалчын,*
*Твар, які знаёма, страшна плача —*
*Не слязінкі ж плавяцца, а воск.*
*— Ты чаго? — пытаюся наўгад.—*
*Гэта ж мой адбітак! мой учынак!*
*І ўсплывае, проста прад вачыма,*
*Неба, раскалоўшы далягляд.*
*І няма ні кадак з малаком,*
*Чорным, быццам дзёгаць, ні сцяжыны...*
*Толькі думкі, ватныя, чужыя,*
*Ды ў паўнеба поўня за акном.*

* * *

*У былога прашу: прабач!*
*Хоць не знаю, за што... За памяць.*
*За яе пажухлы кумач,*
*За слязу, што неба не спаліць.*

*За раптоўны ўсплёск галубоў*
*У пагаслым люстэрку ночы.*
*За цябе. За сваю любоў,*
*Асцярожную па-жаночы...*

*Дапіваю яе святло,*
*Адпускаю яе заранак!*
*І была віна, не было —*
*Вінавата. Бо пакарана.*

* * *

*Сонца — хмары... Вецер зноў усходні!*
*Неба не ўтрымаць у берагах.*
*Бы ў папрок яму — твая паходня.*
*Бы ў дакор душы — твая туга.*

*І не ведаю, якога бога*
*Папрасіць за ранак і за нас.*
*Загукаю — выблісне дарога —*
*І між намі зноў грукоча час.*



*Глухну не ад грукату — ад болю,*
*Ад балючай думкі, што нічым,*
*Ні слязьмі, ні праўдай, ні любоўю,*
*Часу і сабе не памагчы.*

*І іду, сама сабе чужая,*
*Без дарогі, ўзбоч сваёй бяды:*
*Кожны крок прадонне набліжае,*
*Кожны міг адпрэчвае гады...*

* * *

*Уяўленне... Спакуса жыццём...*
*Раздваенне то сэрца, то шляху...*
*Афарбоўваю ўсё ў пачуцце —*
*Ліпень, раніцу, музыку Баха.*

*Ліпень, раніцу... Бах адгучаў.*
*І цяжкую аконную раму,*
*Цень яе, што прырос да пляча,*
*Не скране і не кратае ранак.*

*Зноў у сонечных промнях касых*
*Чэзнуць мроі, зацвілыя ўночы:*
*Той жа колер жыцця, што ва ўсіх,—*
*То бясколерна-звыклы, то змрочны.*

* * *

*Падворак ночы, журавель яго*
*З каўшом, які расплёсквае сутонне...*
*Адзін, другі глыток — і ўсё патоне*
*У сне, у цішыні без берагоў.*

*Я ўжо цягнуся да таго каўша,*
*Апаленая смагай незямною,*
*І раптам з жахам чую: нада мною*
*Бяссіла б'ецца і крычыць душа.*



*Душа ці, можа, птушка — разбяры!*
*А крык баліць, а крык не адпускае —*
*Яго трывога роспачна-цяжкая*
*Пагрозліва калышацца ўгары.*

*А значыць, смерць паблізу. Прыйдзе час,*
*І смага вернецца — на тое й смага!*
*І не дазнаюся, чыёй адвагай*
*Я выжыву, як выжыла не раз.*

* * *

*Звечарэла. Неба побач, поруч —*
*У акне, у споміне маім,*
*І туга, яе цяжкая горыч,*
*Мроівам калышацца над ім.*

*Міг, другі — і хлыне, і нахлыне!*
*Далягляд хіснуўся і паплыў*
*За саборамі, за сінім ліўнем,*
*Што змывае ў ноч іх купалы.*

*Залатыя купалы стагоддзяў,*
*Іх крыжы — крыжы надзей і мук...*
*Хто іх потым там, у ночы, знойдзе?*
*Змрок і лівень. Неба рвецца з рук.*



*Неба мкнецца ліўнем стаць, ракою,*
*Ноччу! — і не слухаць, не сачыць,*
*Як самотна, светла над Масквою*
*Княжае імя тваё гучыць.*

*А яно гучыць — і што самота,*
*Што яе бяссонныя крыжы!*
*Хто іх бачыць, хто іх знойдзе потым*
*У жыцця і смерці на мяжы?*



# не сэрцу веру, песні веру...

* * *

*Не сэрцу веру, песні веру.*
*А ў песні ў кожным слове — ты,*
*На ўсе гады мае наперад,*
*На ўсе гады — да няматы.*

Да нематы, што непазбежна
Абрушыць цішыню ў душу,
Перш у душу, пасля ў бязмежжа,
Якое за плячмі нашу.

Ды гэта ўжо за тым пагоркам,
Дзе шлях павоем зарасце...
Ён, шлях, яшчэ гамоніць з зоркай
Аб кожнай стрычанай вярсце.

Ён, шлях, яшчэ імкнецца небам
Два нашы светы спалучыць.
І гэта значыць: песні трэба
Гучаць, гукаць цябе і жыць.

* * *

*З любові, з бяссоннае мукі*
*Народзіцца свет... Мо прасцей*
*Было б, не ламаючы рукі*
*Аб выступы ценяў і сцен,*
*Аб згадкі, замкнёныя ў слове,*
*Свой дзень прыраўняць да жыцця*
*І зноў навучыцца любові...*
*Прасцей! А душа — як дзіця.*

*За сонечным зайчыкам мкнецца,*
*Спрабуючы волю злавіць,*
*І слухаць не хоча, што вецер*
*Сатканы з адных бліскавіц,*
*Што прыйдзе вясна — з навальніцай,*
*Што неба зраслося з зямлёй*
*І свету — яшчэ нарадзіцца*
*З любові і мукі маёй.*

* * *

*Шчасліваю — не памінаць пра шчасце,*
*Пакінутаю — грэцца ля яго...*
*Як проста! Вось бы шчасце яшчэ ўкрасці*
*Ці хоць на год пазычыць у каго.*

*Адсвяткавала б год той, адлюбіла*
*За ўсё жыццё, за ўсе свае гады,*
*Што нада мной кружылі так бяскрыла —*
*Не згадвала пра лёс свой малады.*

*Не згадвала — і вось цяпер згадала,*
*Цяпер, калі падсмейваецца лёс*
*Над сівізной, якой ужо нямала,*
*Над стомаю, цяжар якой узрос.*

*Ці то ўзапраўду маладосць адстала*
*І марна спадзявацца на яе,*
*Ці то, забыўшы пра мароз, адталі*
*Якіясь словы даўнія твае.*

* * *

*Іншыя... Што мне іншыя?*
*Хай лагодзяць свае шляхі,*
*З камянёў іх рукою ўвішнаю*
*Адшкрабаюць іржу і мхі.*

*Хай шчыруюць! Усё акупіцца,*
*Не спакоем — спакойным сном...*
*Мне ж — пакутна, адчайна любіцца,*
*Мне — утульна й са скразняком.*

*Не іржой зацвіце, сінечаю*
*След дажджу — у маіх слядах,*
*Не імхом — пазалотай вечнаю*
*Сонца высцеле мой абсяг.*

*Не таму, што ў жыцця выпрошваю*
*Больш таго, што яно дае,—*
*Не ўгінаюць мне плечы ношаю*
*Дні мае, надзеі мае.*

* * *

*З дзіцячых сноў*
*На свята слоў маіх*
*Прыйшлі вятры, музы́кі-чарадзеі,*
*Што могуць, падбіраючы на слых*
*Любы матыў, агучыць ім надзеі.*

*І потым гукі абярнуць лісцём*
*І ў ліставеі закружыць дарогу...*
*Вышэе дзень*
*(Мы разам з ім расцём!),*
*Вышэе неба над яго парогам.*

*Міраж? А паспрабуй яго паруш!*
*У позірку, над ім, над цэлым светам,*
*Не воблакі — букеты сініх руж,*
*Не промні сонца — стужкі на букетах.*

*І птушкі! — чарадзеі-дудары*
*Ўсю музыку на волю адпусцілі...*
*Міраж? А паспрабуй яго сатры!*
*Не позірк — слёзы неба засвяцілі.*

* * *

*Гісторыя, прыйдзі на дапамогу:*
*Ты ведала жанок і на зямлі,*
*Якім служыла мара,— іх нямнога,*
*Але ж яны былі, былі, былі!*

*Аднекуль жа я змалявала сцежкі,*
*І сны, і тыя спрэчкі з пачуццём,*
*І тыя знакі веры, тыя ўсмешкі,*
*Апаленыя полымем — жыццём.*

*Аднекуль жа я помню боль апёкаў,*
*Ахвярны танец чорнага кастра...*
*Далёка я, занадта ўжо далёка*
*Ад іх, і ўсё ж усім ім — я сястра.*

*Мне трэба ведаць, што перашкаджае*
*Іх пагукаць, назваць сваё імя:*
*Адлегласць? ноша сэрца? дум скрыжалі?*
*Зноў дзень на паўдарозе пераняў...*

*Гісторыя, прыйдзі на дапамогу!*

* * *

*Скардзіцца на лёс? Каму?*
*Тым заступнікам з былога,*
*Што хацелі імем бога*
*Асвяціць душу-турму?*

*Тым знаёмым незнаёмцам,*
*Што, па праву ўсіх сяброў,*
*У адплату за любоў*
*Кроілі, як бохан, сонца?*

*Тым, сустрэтым на рагу*
*Выпадковасці, каханым,*
*Што да сэрца, як да раны,*
*Прыраслі лістамі губ?*

*Скардзіцца на лёс... Каму?*
*І нашто, скажыце, лёсу*
*Ведаць, што мне зычыць восень,*
*Што, урэшце, я прыму?*

*Расцяклася лужай сінькі*
*Раніца... Пяро скрыпіць...*
*З выцертай старой пласцінкі*
*Ў шлях выцягваецца ніць.*

* * *

*Мінулае ўцэнена: шчасце — няшчасце...*
*І я размяняю жыццё на гады,*
*Каб жменю манетак бліскучых пакласці*
*За рамку са здымкамі дзён маладых.*

*І я засумую, ў сустрэчных паглядах,*
*Сціраючы ўсмешкай адбіткі свае,*
*Хоць буду, здаецца, да смешнага рада,*
*Што можна іх сцерці — і ўменне стае.*

*Паверу: у кожным жыве таямніца,*
*Жыве і ва мне! — я не знала сябе...*
*Магу памыліцца. Магу заблудзіцца*
*У слове, дзе раніца зоркі скубе.*

*Магу паляцець, стаўшы раніцай гэтай,*
*Назад, у юнацтва, паўз сонную Пціч,*
*І потым вярнуцца, з абноўленым светам,*
*Да тога з людзей, хто пачуе мой кліч.*

*І з ім, разаслаўшы палотнішчы мая,*
*Пісаць на іх гэты абноўлены свет...*
*Магу! А чамусьці жыццё размяняю*
*На жменю бліскучых шчаслівых манет.*

* * *

*Паражэнне? Няхай паражэнне.*
*Яно вартае ўсіх перамог —*
*Гэта ўпарта сляпое кружэнне*
*У баку ад людзей і дарог.*

*Я цяпер навучуся быць іншай —*
*Быць прыгожай, такой, як любоў,*
*І штодня на падсіненай цішы*
*Для нябёс вышываць галубоў.*

*І вырошчваць у раніцах росных*
*Сонцы — ружам, а ружы — журбе...*
*Я цяпер навучуся быць celloзнай.*
*Быць сабою. Быць роўнай сабе.*

* * *

*Мы сябравалі, Муза, хіба не?*
*Я згадваю дагэтуль, як падоўгу*
*Ты слухала мой шэпт, мой плач знямоглы,*
*Ўздыхаючы, шкадуючы мяне.*

*І кожны міг быў ачышчэння міг,*
*І кожны ўздых быў апраўданнем ночы,*
*Бяскрыласці, тых слёз маіх жаночых,*
*Не па-жаночы гордых і цяжкіх.*

*О, як ты ўмела з самых цьмяных слоў*
*Раздзьмуць жывыя дрогкія цяпельцы!*
*З якім цярпеннем прымушала грэцца*
*Ля іх маю душу, маю любоў!*

*І верылася, што вярну той доўг,*
*Сто раз вярну, перш чым давер твой страчу,*
*А страціла цябе — і з болем бачу:*
*Ты верыш тым, у кім — любоў і бог.*

*Любоў ці бог... Ты больш не верыш мне,*
*Не верыш ні слязам маім, ні словам...*
*Я палюблю! Я ўсё пачну нанова!*
*Мы сябравалі, Муза, хіба не?*

* * *

*Мы мінаем раніцу — і шлях,*
*Што цячэ паўз нас (праз нас!) у вечнасць,*
*Слухае не крокі — іх бясспрэчнасць,*
*Іх працяг у памяці — прасцяг.*

*Сонечны прасцяг на сотні вёрст,*
*Сотні сотняў вёрст, што так знаёма,*
*Так знаёма-цёпла пахнуць домам,*
*Як ні йдзі — ўкруга або наўпрост.*

*Як ні йдзі — усюды знойдзеш дом,*
*Дзе жыццё, старое, маладое,*
*Шчасце запівае сырадоем,*
*Гора засявае лебядой.*

*Колькі горкай лебяды тае́*
*Перацёрта на муку — на му́ку*
*(Гэты хлеб пакаштаваць і ўнуку),*
*Гора ж і дасюль на ўсіх стае.*

*Шмат перажылі й перажывём,*
*Шмат чаго — усё! — аддаць гатовы,*
*Быў бы толькі дом, стары і новы,*
*Быў бы толькі Бацькаўшчыны дом!*

* * *

*Той час даўно мінуў...*
*Вядзьмарку спаляць,*
*Збаяўшыся яе прарочых слоў.*
*А я кідаю ў полымя, у памяць,*
*Сваё імя. А я шукаю схоў.*
*Сабе. І ёй, сястры маёй далёкай.*
*Хоць дзе той схоў?*
*Ужо сама зямля,*
*Чапляючыся слепа за аблокі,*
*Не можа збіць цяжкі агонь з галля.*

*Ужо сама зямля крычыць ад болю,*
*І крыку анікому не чутно.*
*Вядзьмарку паляць! А чыёю воляй —*
*Усё адно, усім усё адно.*
*Чаму ж чытаю ў часу на скрыжалях*
*Сваё імя?*
*Адкуль у сэрцы страх?*
*Той час даўно мінуў!*
*Каго мы палім?*
*Той час мінуў...*
*Куды прывёў нас шлях?*

* * *

*Спакуса вершам... Слова прагне слова,*
*Каб адштурхнуць яго і потым зноў*
*Падпільнаваць і выманіць са схова,*
*Якім бы цёмным ён ні быў, той схоў.*

*І вось ужо іх, паляўнічых, двое —*
*Падвоены і прага і імпэт,*
*І ўжо не слова — пачуццё жывое*
*Высочваюць, цікуюць след у след.*

*Іх не спыніць: зававленыя ловам,*
*Яны не чуюць воклічаў маіх,*
*Яны выцягваюць — за словам слова! —*
*Саму душу з цянётаў трапяткіх.*

*І толькі захліснутыя пакутай,*
*Якую і прадбачыць не маглі,*
*Сцінаюцца, забіўшыся ў закутак:*
*Пісала я, яны ж — яны жылі!*

ЗМЕСТ

## І слова знікне у бездані стагоддзяў...



## Я — вольная шукаць свой дзень...



## Не шлях, а лёс вядзе...



## Абжываю сваё адзіноцтва...



## Я зямная, я ўсё-ткі зямная!..

### *Звыкаюся з сабой і з цішынёй...*





### *Не знаю бога — і малюся богу...*



### *Душу гняце бездапаможнасць слоў...*



### *Лячуся халодным зімовым святлом...*

## Змаукаю перад роспаччу душы...



## Не учуушы горычы падману...



## Любоую не вылечыць свету...



## Не сэрцу веру, песні веру...

